

# Ліm

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 36 (4836) 11 верасня 2015 г.

## Пункціграм

✔ Кіраўнік дзяржавы заснаваў спецыяльны прыз Прэзідэнта Беларусі «Славянская надзея». Прыз будзе ўручацца ў межах Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» аднаму з удзельнікаў конкурснай праграмы за лепшае ўвасабленне ў творах вакальнага мастацтва славянскай тэмы.

✔ Выстаўка «Выданні Францыска Скарыны з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі», прымеркаваная да 25-годдзя Музея беларускага кнігадрукавання і 525-годдзя Францыска Скарыны, упершыню прадстаўлена на радзіме беларускага першадрукара ў Полацку.

✔ У штаб-кватэры ЮНЕСКА адбыўся канцэрт «Лісты пра музыку», прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, кампазітара, дыпламата, мецэната, палітыка, дзеяча культуры трох дзяржаў — Беларусі, Літвы і Польшчы. Юбілей кампазітара ўключаны ў Спіс памятных дат ЮНЕСКА ў 2015 годзе.

✔ Першы нацыянальны канал Беларускага радыё пачаў прыём заявак на ўдзел у V Рэспубліканскім творчым радыёконкурсе «Маладыя таленты Беларусі». Конкурс будзе праводзіцца з верасня па снежань па трох намінацыях: «Эстрадны вакал», «Інструментальная музыка, салісты» і «Спадчына» (творчы пошук у галіне фальклору і этнічнай музыкі).

✔ У сераду ў Калінінградскім абласным гісторыка-мастацкім музеі ў межах заключанага пагаднення аб доўгатэрміновым творчым супрацоўніцтве адкрылася выстаўка з фондаў Дзяржаўнага літаратурнамемарыяльнага музея Якуба Коласа.

✔Пяты гарадскі фестываль творчасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі «Мастацтва жыць, тварыць мастацтва» пройдзе ў Мінску 13 верасня падчас святкавання Дня горада. Журы ацэніць канкурсантаў у некалькіх намінацыях, у тым ліку «Вакал», «Харэаграфія», «Мастацкае, выяўленчае і дэкаратыўнапрыкладное мастацтва».

✔ VIII Міжнародны фэст анімацыйных фільмаў «Анімаёўка-2015» праходзіць у Магілёве з 9 па 13 верасня. Сёлета ў фэсце бяруць удзел 225 фільмаў з 43 краін свету. Упершыню будуць прадстаўлены аніматары Аўстраліі, Грэцыі, Ізраіля, Мексікі, Румыніі, Паўднёвай Карэі, Японіі.

✔ Мемарыяльную дошку заслужанаму работніку культуры БССР, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Валянціну Ермаловічу адкрылі ў Магілёве. Памятны знак усталяваны на фасадзе дома па вул. Першамайская, 46, дзе акцёр і рэжысёр жыў у пасляваенныя гады. Аўтар дошкі — вядомы ў Магілёве скульптар, член Саюза мастакоў Беларусі Уладзімір Конанаў, які быў добра знаёмы з Валянцінам Ермаловічам.

ISSN 0024-4686









*Фота Кастуся Дробава.*

*Пісьменнік Уладзімір Саламаха атрымлівае Нацыянальную літаратурную прэмію з рук міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч.*

# Са Шчучына — з добрай кнігай!

**Горад Шчучын, што на Гродзеншчыне, у мінулыя выхадныя прымаў Дзень беларускага пісьменства. Праграма атрымалася вельмі насычанай, ды і цікавостак у ёй было шмат, а сталіца сёлетняга свята ззяла паўнаколерным суквеццем фарбаў.**

Распачаліся ўрачыстыя мерапрыемствы адкрыццём пасля капітальнага рамонту Шчучынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Цёткі. Падчас цырымоніі бралі слова міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Віктар Лісковіч, старшыня Шчучынскага райвыканкама Сяргей Ложачнік, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, генеральны дырэктар — галоўны рэдактар газеты «Комсомольская правда в Беларуси» Галіна Малішэўская. Прывітальны адрас міністра культуры Рэспублікі Беларусь Барыса Святлова зачытала начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Наталля Задзяркоўская. У дар бібліятэцы было перададзена 3 тысячы асобнікаў новых кніг айчынных пісьменнікаў. Тут жа сумесна з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы быў рэалізаваны выставачны праект «Клічу вас я на перамогу», прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і творчасці Янкі Купалы ў ваенныя гады. Пасля ў кніжніцы адбыўся міжнародны «круглы стол» «Сугучча: літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства», у якім узялі ўдзел міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, айчынныя і замежныя творцы.

Віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з Днём беларускага пісьменства зачытаў падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця свята намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі. «І сёння, у час імклівага развіцця новых інфармацыйных тэхналогій, кніга і шчырае мастацкае слова пісьменніка па-ранейшаму застаюцца запатрабаванымі сучасным грамадствам», — падкрэсліваецца ў віншаванні.

Падчас адкрыцця Дня беларускага пісьменства мелі слова намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіл Русы, старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў, Архіепіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Арцемій, старшыня Шчучынскага райвыканкама Сяргей Ложачнік, замежныя госці — паэт з Чарнагорыі Слабадан Вуканавіч і расійскі празаік, дырэктар выдавецтва «Художественная литература» Георгій Прахін.

Упершыню ў гісторыі краіны адбылося ўручэнне Нацыянальнай літаратурнай прэміі. У намінацыі «Проза» лепшым стаў Уладзімір Саламаха з кнігай «І няма шляху чужога», у намінацыі «Паэзія» — Тамара Краснова-Гусачэнка са зборнікам «Сустрэча», у намінацыі «Публіцыстыка» — Міхаіл Шыманскі з выданнем «Мы этой памяти верны», у намінацыі «Драматургія» — Наталля Голубева з цыклам сцэнарыяў для перадач праекта тэлеканала АНТ «Зваротны адлік», у намінацыі «Крытыка і літаратуразнаўства» — Дзяніс Марціновіч з кнігай «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча», а ў намінацыі «Дзіцячая літаратура» перамагла ўраджэнка Шчучыншчыны Ганна Скаржынская-Савіцкая са зборнікам казак «Надзейка-чарадзейка».

Чытайце на стар. 3 ▶

# Свае. Не чужыя

У Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная адкрыццю XI Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур.

12 верасня на адкрытай пляцоўцы на праспекце Пераможцаў у Мінску пройдзе канцэрт-адкрыццё XI Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Ён праводзіцца раз на два гады і штораз — больш маштабны, адкрывае новыя таленты. Калі ў першым фестывалі ўдзельнічалі прадстаўнікі адзінаццаці нацыянальнасцей, то на апошніх двух лічба павялічылася да трыццаці шасці.

Галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Людміла Лебедзь адзначыла, што склад журы будзе традыцыйным — людзі, якія працуюць на фестывалі на працягу многіх гадоў і зарэкамендавалі сябе кампетэнтнымі, прынцыповымі і адказнымі за свае рашэнні. Гэта адзінаццаць вядомых дзеячаў культуры і мастацтваў, пяцёра з якіх — прафесары.

Пра адзін з галоўных напрамкаў фестывалю на прэс-канферэнцыі расказаў рэжысёр цырымоніі адкрыцця, загадчык кафедры рэжысуры абрадаў і святаў Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Аляксей Камінскі. Ён паведаміў, што ўсе пастановачныя нумары, якія госці ўбачаць падчас адкрыцця, падрыхтаваны з мэтай спалучыць ідэі розных дыяспар і беларускую творчасць, паказаць, наколькі моцна прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей падтрымлівае наша краіна.

Тэму ўзаемадзеяння нацыянальнасцей падтрымаў старшыня Кансультатыўнага савета пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей, старшыня Мінскага гарадскога армянскага культурна-асветніцкага таварыства «Аястан» Георгій Егіязаран, які падкрэсліў, што ў Рэспубліцы Беларусь створаны ўсе ўмовы для таго, каб прадстаўнікі розных нацыянальнасцей не пачуваліся на нашай зямлі чужымі, каб яны маглі свабодна развіваць культуру сваіх народаў.

Акрамя народных калектываў, фестываль прымае прадстаўнікоў нацыянальнасцей і ў індывідуальным парадку. 13 верасня пачнецца першы адборачны тур, які адбудзецца ў горадзе Міёры Віцебскай вобласці, адборачныя туры будуць праходзіць у Маларыце Брэсцкай вобласці, Рагачове — Гомельскай, Лідзе — Гродзенскай, Маладзечне — Мінскай, у Бабруйску — Магілёўскай вобласці, у горадзе Мінску. Адбор будзе праходзіць з верасня па снежань 2015 года, фінальныя мерапрыемствы адбудуцца ў Гродне 3 — 4 чэрвеня 2016 года.

Паводле Дырэктара Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіла Рыбакова, галоўны прынцып фестывалю нацыянальных культур — дэмакратычнасць.

Сёлета на цырымоніі адкрыцця госці ўбачаць выступленні ансамбля танца «Сонечная Грузія», ансамбля армянскага танца «Эрэбуні», карэйскага ансамбля «Арыранг», ансамбляў іспанскага і цыганскага танца… Некаторыя з калектываў на мерапрыемстве такога ўзроўню будуць выступаць упершыню.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Дзень ведаў у доме Коласа

Штогод у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа 1 верасня праходзіць традыцыйнае свята «Песняй вітаю я вас!», прысвечанае Дню ведаў.

Як вядома, Якуб Колас значную частку свайго жыцця, амаль трыццаць гадоў, прысвяціў педагагічнай працы. Удалае спалучэнне паэтычнага дару і таленту настаўніка дало багаты плён — народны паэт апрацаваў больш за 40 казак, напісаў шмат твораў для дзяцей. Невыпадкова, што ў першы дзень восені музей Якуба Коласа падрыхтаваў для сваіх наведвальнікаў разнастайную праграму: майстар-класы па выраба паштовак, аглядныя экскурсіі па ўсіх залах дома-музея песняра, беларускія народныя гульні і лялечныя прадстаўленні.

Адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі «На ўлонні прыроды такія прыгоды», прысвечанай 80-годдзю выхаду ў свет паэмы «Міхасёвы прыгоды». Галоўны герой гэтага знакамітага твора — малодшы сын пісьменніка Міхась, а асновай сюжэта сталі яго незвычайныя прыгоды падчас адпачынкаў у вёсцы Талька Пухавіцкага раёна. На выстаўцы прадстаўлены прыжыццёвыя выданні паэмы, ілюстрацыі Уладзіміра Савічада выдання 1980 года, фотаздымкі мясцін, дзе адпачывала сям'я Міцкевічаў.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі беларускія дзіцячыя пісьменнікі Ніна Галіноўская і Уладзімір Мазго, а таксама прататып галоўнага героя паэмы — вядомы навуковец Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. З прывітальным словам да маленькіх наведвальнікаў звярнулася дырэктар музея Зінаіда Камароўская, якая павіншавала ўсіх з Днём ведаў і нагадала, што дом Якуба Коласа адкрыты на працягу ўсяго года і заўсёды рады гасцям. Пісьменніца Ніна Галіноўская прачытала некалькі сваіх вершаў, якія вучаць шанаваць прыроду, правяла паэтычную экскурсію па любімых мясцінах Мінска. Паэт Уладзімір Мазго адзначыў, што лепшы сябар школьніка — гэта кніга, прачытаў верш «Не гуляйце, дзеці, доўга ў інтэрнэце…», загадаў загадкі. У канцы імпрэзы выступіў Міхась Міцкевіч, які звярнуўся да школьнікаў з заклікам больш чытаць, бо зараз кнігі даступныя, а ў часы яго дзяцінства добрай літаратуры вельмі бракавала. Таксама параіў занатоўваць любімыя ўрыўкі з твораў, бо гэта не толькі трэніруе памяць, але і фарміруе літаратурны густ.

На памяць пра свята кожны наведвальнік атрымаў невялічкі падарунак — бутаньерку з жытнёвых каласоў, перавязаных блакітнай стужкай, а яшчэ — пазітыўныя эмоцыі, неабходныя перад пачаткам новага навучальнага года.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Прыярытэт айчынным аўтарам

**Парад вялікіх восеньскіх прэм'ер на абноўленай сцэне, прыярытэт пастановак на беларускай мове і сакрэты заваявання дзіцячай увагі — пра гэта ішла гаворка на прэс-канферэнцыі ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача.**

Ужо заўтра, 12 верасня, у ТЮГу стартуе 60-ы тэатральны сезон. Пачнецца ўсё з паказу маштабнай (занята амаль уся трупа!) п'есы «Сіняя птушка» М. Метэрлінка. Маляўнічыя замалёўкі чакаюць гледачоў як на пляцоўцы перад тэатрам, так і ўнутры — для стварэння юбілейнай атмасферы і добрага настрою. 16 верасня чакаецца пастаноўка «Зацюканы апостал» А. Макаёнка, арыентаваная на старэйшае моладзевае пакаленне. Рэжысёр абодвух спектакляў — мастацкі кіраўнік ТЮГа Уладзімір Савіцкі.

Дарэчы, падчас канферэнцыі ён шмат расказваў пра найбліжэйшыя мэты тэатра: «Галоўная наша задача — стварэнне высокамастацкіх спектакляў, цікавых у любым узросце, арыентаваных на маральнае выхаванне».

Па словах Уладзіміра Савіцкага, ТЮГ працягне традыцыю сямейных пастановак, якія будуць ісці па выхадных, каб хлопчыкі і дзяўчынкі прыходзілі разам з бацькамі. Вечарамі тэатр таксама не будзе «сумаваць» — адчыніць дзверы для моладзі, прапануючы больш сур'ёзную драматургію, нават філасофскую, якая ставіць перад гледачом пытанні.

«Аснову нашага рэпертуару складаюць класічныя творы. Першае, на што абапіраецца тэатр, — добрая літаратура. Менавіта яна дае магчымасць вучыцца як акцёрам, так і гледачам, павышаць духоўны і прафесійны ўзровень», — лічыць Уладзімір Савіцкі.

Тым не менш мастацкі кіраўнік выказаў жаданне бачыць на сцэне і моладзь — з яе смелымі эксперыментамі, цікавымі думкамі, спектаклямі, якія здзіўляюць.

«Тэатр павінен рухацца. Калі ёсць перспектывы, энергія, агонь, нягледзячы на няўдачы і памылкі, тады нараджаецца нешта вартае», — дадаў Уладзімір Савіцкі.

На Каляды са сцэны прагучыць казачны твор — новая чароўная гісторыя рэжысёра Ягора Лёгкіна «Таямніца вялікага Гудвіна». На вясну запланаваны пастаноўкі «Дон Кіхот» і «Дзікае паляванне караля Стаха». На сцэну вернецца і Паліяна, гераіня аповесці Элінар Портэр.

«Пільна працуем з гледачамі школьнага ўзросту, таму плануем уключаць у рэпертуар больш твораў з вучэбных праграм па рускай, сусветнай, беларускай літаратуры. Гэта Мальер, Шэкспір, Астроўскі, Чэхаў», — зазначыў мастацкі кіраўнік.

Дарэчы, ужо наступны сезон, на думку Уладзіміра Савіцкага, пройдзе пад дэвізам, сутнасць якога — прыярытэт твораў сучасных беларускіх аўтараў.

Дырэктар Тэатра юнага гледача Ігар Варонін распавёў пра рэканструкцыю — захаванне архітэктурнага каларыту, культурнай спадчыны, закладзенай у пачатку 1950-х гадоў.

«Для тэатра вельмі важная зваротная сувязь з гледачом. Сёння шмат крыніц інфармацыі, таму дзеці і моладзь хутка думаюць, іх няпроста здзівіць. Мы ўвесь час працуем над вырашэннем гэтай праблемы. Варыянты нефармальных зносін з аўдыторыяй — гэта абмеркаванне спектакляў, стварэнне спецыяльных буклетаў і праграмак, дзе кожны глядач можа выказаць сваё меркаванне наконт пастаноўкі. Тое ж самае можна рабіць і праз сайт — дарэчы, ён таксама абнаўляецца», — дадаў Ігар Варонін.

Акрамя таго, у фае тэатра будуць працаваць музычная гасцёўня і выстаўка дзіцячых малюнкаў. Да 60-га сезона тэатр таксама рыхтуе два дадатковыя праекты — «Здароўе і культура» і «Чатыры сезоны ў ТЮГу». Першы ўключае кансультацыі медыцынскіх работнікаў для бацькоў і дзяцей па суботах, другі арыентаваны на супрацоўніцтва з музычнымі і мастацкімі адукацыйнымі ўстановамі.

Што да моўнага пытання, то тут загадчык літаратурна-драматургічнай часткі ТЮГа Жана Лашкевіч упэўнена заначыла: маленькія і юныя гледачы добра рэагуюць на спектаклі, якія ідуць па-беларуску. «Дзеля больш хуткага паразумення з роднай мовай мы склалі спецыяльныя слоўнічкі да кожнага спектакля. Перад пастаноўкамі арганізоўваем гульні, дзе таксама ўжываюцца няпростыя выразы. Але часцей за ўсё складанае слова «запакоўваецца» ў такі сцэнічны кантэкст, што не зразумець яго немагчыма! Увогуле, калі раней спектаклі па-беларуску былі выключэннем, то зараз — наадварот, рускіх няшмат. Таму беларускія пісьменнікі і драматургі — людзі незаменныя і вельмі запатрабаваныя для тэатра!» — падсумавала Жана Лашкевіч.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Кітайскім студэнтам ад беларускіх пісьменнікаў

**Беларускіх кніг у Кітаі паболела. Ясна, што для маштабаў такой краіны, як Паднябесная, — гэта нават і меней, чым кропля ў акіяне. І ўсё ж… У Кітай для студэнтаў і выкладчыкаў 2-га Пекінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта адпраўлена партыя з 50 кніг сучасных беларускіх пісьменнікаў.**

Такі падарунак зроблены Выдавецкім домам «Звязда» і Мінскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Шмат хто з аўтараў кніг паэзіі, прозы падпісаў свае зборнікі. Таксама ў падарунак адпраўлены і нумары літаратурна-мастацкіх часопісаў «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Бярозка», «Вожык». Такі збор не выпадковы. Усё ж кнігі — на беларускай і рускай мовах. Адрасаваны яны Цэнтру даследавання Беларусі, які працуе ў 2-м Пекінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце.

— Мы рады такому падарунку, — дзеліцца сваімі ўражаннямі выкладчыца ўніверсітэта спадарыня Лю Мяа. — Спадзяёмся, што кола даследчыкаў, проста цікаўных да беларускай літаратуры, культуры студэнтаў і выкладчыкаў стане ў нас дастаткова шырокім. Пакуль што робім першыя крокі ў вывучэнні Беларусі. Дарэчы, натхняе нас на гэта і лёс паважанага перакладчыка славянскіх літаратур Гаа Мана. Нядаўна наведаліся да яго ў госці, занатавалі ўспаміны гэтага ўнікальнага чалавека, творцы, які, між іншым, з'яўляецца і перакладчыкам беларускіх пісьменнікаў Максіма Танка, Святланы Алексіевіч на кітайскую мову. А яшчэ — аўтарам цікавых каліграфічных партрэтаў пісьменнікаў Беларусі: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Навума Гальпяровіча ды іншых.

**Сяргей ШЫЧКО**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Са Шчучына — з добрай кнігай!



*Фота Кастуся Дробава.*

— Заснаванне Нацыянальнай літаратурнай прэміі — гэта вялікая ўвага і клопат дзяржавы пра развіццё грамадства. Беларуская кніга годна прадстаўляе краіну ў свеце. Але напачатку было Слова, і перш чым кніга становіцца кнігай, яна задумваецца ў марах пісьменнікаў, навукоўцаў, яна адлюстроўвае не толькі наша гістарычнае мінулае, але і наш сённяшні дзень, — падкрэсліла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

У гімназіі г. Шчучына адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Шчучынскія чытанні-2015». На плошчы Свабоды працаваў павільён «Кнігі і прэса Беларусі». Падчас Дня беларускага пісьменства адбылася прэзентацыя кнігі «Шчучыншчына: карані і крона» Выдавецкага дома «Звязда», які прадставіў і іншыя навінкі літаратуры: «Таямніцы Крэўскага замка. Падарожжа па нашай гісторыі з Вітаўтам Вялікім» Анатоля Бутэвіча, альманахі «Сугучча. Беларусь — Масква» і «Сугучча. Беларусь — Санкт-Пецярбург», кнігі вершаў для дзяцей «Венерын чаравічак» Надзеі Парчук і «Хто ў лесе самы смелы?» Таццяны Мушынскай, кнігі «Вайна праклятая» Уладзіміра Ліпскага і «Ніколі не забудзем. Унукі пра вайну» ды інш. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прэзентавала новы зборнік прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца». Нацыянальная бібліятэка Беларусі прадставіла шосты том факсімільнага перавыдання кніжнай спадчыны Францыска Скарыны. Першы экземпляр быў урачыста перададзены ў дар Шчучынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Цёткі.

Конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка» прайшоў у Шчучынскім раённым Доме культуры. Пасля былі падведзены вынікі рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай».

Каля храма Святога Міхаіла Архангела быў пасаджаны Сад Малітвы. Вернікі здзейснілі хрэсны ход да храма Богаяўлення, тут жа адбылася Божая літургія. Адкрыўся аднаўлены Палац князёў Друцкіх-Любецкіх. У горадзе працавала шмат творчых пляцовак, у ліку якіх — тэатральная пляцоўка «Чароўнае слова тэатра», турыстычная «Гродзеншчына запрашае», «Вясёлка дзяцінства»… Акрамя таго, праходзілі шматлікія выстаўкі, а на стадыёне «Алімп» адбыўся футбольны матч паміж дзіцячымі камандамі на прызы Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Завяршылася свята вялікім канцэртам майстроў мастацтваў і феерверкам. Эстафета Дня беларускага пісьменства была ўрачыста перададзена гораду Рагачову Гомельскай вобласці.

**Яна ЯВІЧ**

# Асветніцкія стужкі

Міжнародны каталіцкі XI фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм *Magnificat* — 2015 прайшоў з 30 жніўня па 3 верасня. Ён распачаўся ў Мінску, а прадоўжыўся ў горадзе Глыбокае і аграгарадку Удзела. Было прадстаўлена 48 работ з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Сербіі, Харватыі, Чэхіі, Польшчы, Францыі, Італіі, Іспаніі, Ірландыі, Індыі, ЗША, Арменіі і Аргенціны.

Гран-пры сёлетняга фэсту атрымаў чэшскі дакументальны фільм «Кірыл і Мяфодзій» (рэжысёры — Отакар Шміт, Яна Студнічкава). Стваральнікі кінастужкі на падставе гістарычных фактаў паказвалі жыццё двух апосталаў, іх значэнне для славян і місіянерскую дзейнасць.

Прыз журы за лепшы дакументальны фільм атрымала айчынная стужка «Два Андрэі» (рэжысёр — Галіна Адамовіч), за лепшую тэлепраграму — расійскі тэлепраект «Іншы» (рэжысёр — Ірына Васільева).

Дыпломам і прызам журы «За лепшую рэжысуру» ўзнагароджана польская карціна «Іаана» (рэжысёр — Анета Копач), прыз глядацкіх сімпатый прысуджаны расійскаму анімацыйнаму фільму «Заступніца» (рэжысёр — Наталля Федчанка). Лепшым дэбютам прызнаны беларускі дакументальны фільм «Сны» (рэжысёр — Сяргей Гараеўскі). Дыплом і прыз дзіцячага конкурсу «За лепшы анімацыйны фільм» атрымала беларуская карціна «Воўк і савяня» (рэжысёр — Святлана Катлярова).

Узнагарода таксама ўручана ксяндзу-магістру Уладзіславу Завальнюку — герою дакументальнага фільма «І аб нечым іншым» (Беларусь, рэжысёр — Уладзімір Арлоў) — за паслядоўную падтрымку нацыянальнай духоўнай спадчыны.

*Magnificat* — гэта агляд работ майстроў у галіне кіно і тэлебачання, скіраваных на евангелізацыю грамадства, падтрымку агульначалавечых каштоўнасцей і створаных у розных хрысціянскіх традыцыях. Форум праходзіць у Беларусі з 2005 года.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Музыка паяднала

Першага верасня нам, вучням 11 «А» класа сярэдняй школы № 77 г. Мінска, пашчасціла сустрэцца з маладой паэтэсай Маргарытай Латышкевіч. Уразіла шматграннасць яе творчасці, а яшчэ здзівіла тое, што Маргарыта захапляецца джазавай музыкай. На пачатку размовы яна пацікавілася нашымі любімымі музычнымі жанрамі і адразу гэтым прывабіла, бо мы — вучні аднаго з музычных класаў школы, пра якую ведаюць не толькі ў краіне, але і за яе межамі.

Летась у верасні на базе нашага класа адбылося ўрачыстае адкрыццё літаратурнай гасцёўні «Сугучча» Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Падчас імпрэз мы сустракаліся з айчыннымі літаратарамі Уладзімірам Мацвеенкам, Міхасём Пазняковым, Ганнай Чумаковай, Генадзем Аўласенкам, Уладзімірам Мазго, Янай Явіч, Сяргеем Трахімёнкам.

Дзякуючы Маргарыце Латышкевіч першы сёлетні ўрок стаў для нас, выпускнікоў, памятным, натхніў на творчасць.

**Анастасія РАТАМСКАЯ,**
**вучаніца 11 «А» класа СШ № 77**

# Вандроўка па Фінляндыі

**Днямі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка «Калевала вачыма рускіх мастакоў» — частка праекта, прымеркаванага да 180-годдзя першага выдання нацыянальнага эпасу Фінляндыі. Летась экспазіцыя дэманстравалася ў шэрагу гарадоў Расіі, а цяпер магчымасць пабачыць работы з'явілася ў беларусаў.**

У праекце ўзялі ўдзел сем мастакоў: Ігар Баранаў, Наталля Ягорава, Антаніна Юфа, Аляксандр Навасёлаў, Сяргей Цярэнцьеў, Тацццяна Чурсінава і Ірына Затулоўская. Майстры выбралі для мастацкай інтэрпрэтацыі пэўны міф, сюжэт, або персанажа «Калевалы», прадставілі ўласныя думкі і асацыяцыі, якія ўзніклі пасля знаёмства з творам.



*Ігар Баранаў «Бітва Калевалы з Пох'елай», 2013 г.*

У аснове «Калевалы» — народныя карэла-фінскія вершы і песні, сабраныя і апрацаваныя Эліясам Лёнрутам. Каб даследаваць багаты фальклорны матэрыял, фінскаму паэту спатрэбілася здзейсніць адзінаццаць падарожжаў па Фінляндыі і расійскай Карэліі. Першае выданне «Калевалы» з'явілася ў 1835 г. Адметна, што за час свайго існавання эпас быў перакладзены на 60 моў свету, а неўзабаве павінен загучаць і па-беларуску.

Як распавяла дырэктар установы Алена Ляшковіч, музей далучыўся да праекта невыпадкова. Янка Купала быў такім жа нястомным падарожнікам, як Эліяс Лёнрут, пабываў у многіх краінах свету, у тым ліку і Фінляндыі. Паэт быў вельмі ўражаны чароўнымі краявідамі і цікавымі традыцыямі гэтай краіны, неадноўчы прызнаваўся, што яму не хацелася расставацца з ёю. Хутка пасля падарожжа ў «Нашай Ніве» быў надрукаваны верш «Над Іматрай», а таксама апісанне падарожжа «З Фінляндыі».



*Аляксандр Навасёлаў «Нявеста», 2010 г.*

Падчас адкрыцця экспазіцыі выступіў кіраўнік Аддзялення Пасольства Фінляндскай Рэспублікі ў нашай краіне Лаўры Пулола. На яго думку, «Калевала» — унікальны твор, які дае магчымасць патрапіць у мінулае, дазнацца пра гісторыю і традыцыі Фінляндыі, ацаніць багацце фінскай мовы. Спадар Пулола павіншаваў прысутных з адкрыццём выстаўкі, выказаў надзею, што праект паспрыяе ўзмацненню сяброўскіх сувязяў паміж беларусамі і фінамі.

Арганізатарамі выстаўкі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Таварыства «Калевала», Інстытут Фінляндыі ў Санкт-Пецярбургу, Аддзяленне Пасольства Фінляндскай Рэспублікі ў нашай краіне.

Экспазіцыя будзе працаваць да 15 верасня, пасля выправіцца ў Гомель у карцінную галерэю Г. Вашчанкі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**14 верасня** — на юбілейны творчы вечар пісьменніка, галоўнага рэдактара газеты «Воскресение» Алены Міхаленка. Удзел бяруць вядомыя літаратары і артысты. Мерапрыемства пройдзе ў вялікай зале Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак у 18:30.

**15 верасня** — на творчую сустрэчу з паэтам, пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым. Запрошаны вядомыя літаратары і майстры мастацтва. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 1 імя Л. Талстога (вул. Маскоўская, 18). Пачатак а 16-й гадзіне.

**16 верасня** — у паэтычны клуб «Парнас» на творчую сустрэчу з паэтам Аленай Кошкінай, падчас якой адбудзецца прэзентацыя яе кнігі «Что сделаешь, то и будет». Мерапрыемства ладзіцца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17:30.

**16 верасня** — на свята маладой паэзіі «Песня мая душэўная», падчас якога адбудзецца ўручэнне пісьменніцкіх членскіх білетаў Таццяне Мацюхінай і Алене Басікірскай, а таксама пройдзе прэзентацыя іх паэтычных кніжак. Імпрэза ладзіцца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Пачатак а 15-й гадзіне.

**17 верасня** — на сустрэчу з маладымі аўтарамі ў публічнай бібліятэцы № 11 (праезд Ташкенцкі, 3). Пачатак у 13.30.

# Вакхавыя ружы Уладзіміра Жылкі



Хамрыйят — апяванне віна, вершы пра віно і застольныя асалоды — жанр, што ўзнік ва ўсходняй паэзіі. Заснавальнікам яго лічыцца арабскі паэт Абу Нувас (VIII — IX стст.). З улікам канструктыўнай стратэгіі сучасных даследчыкаў абазначаць тэрмінам хамрыйят корпус тэкстаў віннай тэматыкі ўвогуле, з пэўнай доляй умоўнасці дазволім сабе аднесці да гэтага жанру вершы У. Жылкі, у якіх ідзе гаворка пра віно, вінапіццё. Такіх вершаў у паэта няшмат, але яны маюць дастаткова яркае мастацка-вобразнае афармленне, пазначаны канцэптуальнай светапогляднай змястоўнасцю, што сведчыць на карысць іх выяўленчага патэнцыялу. Вобразы віна ў літаратурнай традыцыі амбівалентныя, стасуюцца з такімі магістральнымі тэмамі, як жыццё, каханне, сяброўства, вясёласць, згуба, вар'яцтва і інш. У семантычнай напоўненасці вобраза ў вершах У. Жылкі ключавую ролю адыгрывае арыгінальнасць уласна-аўтарскай трактоўкі і, бясспрэчна, наследаванне літаратурнай традыцыі ў асвятленні гэтай у многім экзатычнай для айчыннага прыгожага пісьменства тэмы, перш за ўсё А. Пушкіну і А. Блоку.

У беларускай паэзіі сфарміравалася пераважнае стаўленне да віна як панскага напою. «Сам заморскае віно пі / І насі саеты», — адказвае Бандароўна распуснаму князю ў аднайменнай паэме Я. Купалы. Без меры ліюцца віны ў княжацкіх пакоях у купалаўскай паэме «Гусляр», указваючы на марнасць і непрыстойнасць баўлення часу гаспадарамі. Больш моцныя напоі («вудка», гарэлка) у адпаведнасці з нацыянальнай традыцыяй спажываюцца ў творах Я. Коласа (паэма «Новая зямля» і інш.). Не абыдзена ўвагай пазітыўная змястоўнасць вобраза віна хіба М. Багдановічам, што сведчыць на карысць яго творчых сувязей з паэзіяй французскіх, рускіх сімвалістаў, для якіх характэрна цікавасць да віннай тэмы. Таямнічая прыцягальнасць возера ў аднайменным вершы М. Багдановіча ўзмацняецца арыгінальным аўтарскім параўнаннем, што павялічвае адчуванне паўнаты і насычанасці прыроднага жыцця, якое адгукаецца «струн вясёлых пераборам» у чулай душы паэта:

*У чарцы цёмнай і глыбокай*
*Плешча, пеніцца віно;*
*Хмелем светлым і халодным*
*Калыхаецца яно.*

Віно звязваецца мастаком слова з непрадказальнай і хвалюючай стыхіяй творчасці, натхнення, а сіла ўздзеяння сапраўднай паэзіі падобіцца вытанчанай гульні смакаў і водараў, якія з цягам часу робяцца ўсё больш насычанымі і моцнымі:

*Верш такі — як дар прыроды,*
*Вінаграднае, густое, цёмнае*
*віно:*
*Дні ідуць, праходзяць годы, —*
*Але ўсё крапчэй, хмяльнее*
*робіцца яно.*

Прысутныя ў паэзіі У. Жылкі атрыбуты вінапіцця (хмель, хмельны солад, хмель валасоў, келіх пенны, карчомны чад, вакхавыя ружы і г. д.), як і вершы віннай тэматыкі, арганічна ўспрымаюцца ў кантэксце беларускай паэзіі 1920-х гадоў. Прыгадаем, шэрагу творцаў у свой час указвалася на непрымальна багемныя адценні мастацкай палітры, недапушчальную цікавасць да варыяцый хмелю, свавольнае апяванне разгулу і чаркі. Падобныя з'едлівыя выпады крытыкі бліскуча парыраваў М. Рыльскі, паставіўшы віно ў адзін асацыятыўны рад з маладосцю, узвышанымі памкненнямі, жыццялюбствам і аптымізмам:

*Молодість не розпач топить*
*в склянці,*
*А вином окроплює порив.*

«Вінныя» вобразы каларытна і ярка афармляюць партрэт лірычнага героя Т. Кляшторнага, актуалізуючы юнацкі максімалізм і абвострана-насычаную пачуццёвасць успрымання ім жыцця і пакут кахання:

*Не глядзі з дакорам, дарагая,*
*Не глядзі,*
*Не будзі загубленага мая,*
*Не будзі…*
*Не адна ты сэрца хвалявала,*
*Не адна.*
*Пі юнацтва палкія бакалы,*
*Пі да дна.*

Стыхія ап'янення дасягае сапраўды касмічных памераў у паэзіі Я. Пушчы, якога «сонца віном пахмяліла» і які марыць:

*Пад хмелем моцным-моцным*
*Мы прыедзем на паўстанак*
*Новага сталецця.*

Хмель і віно шырока прадстаўлены аўтарам неад'емнымі спадарожнікамі натхнення і апантанага творчага ўзлёту, падкрэсліваюць несумяшчальнасць творчасці з прагматычнай зададзенасцю, рэгламентацыяй і абмежаваннем.

*Красу жыцця*
*Я поўнай чарай п'ю.*

Польскі пісьменнік, культуролаг Я. Парандоўскі ў сваёй працы «Алхімія слова» тэарэтычна абгрунтаваў дабратворнае ўздзеянне ўмеранага спажывання віна на творчы працэс: «Віно надае палёт, яснасць думцы і тую асаблівую радасць, якая творыць гармонію, лад, прыемнасць… Шклянка добрага віна, выпітая падчас творчасці, рассейвае змрок, распальвае ўяўленне, акрыляе думку — ключом пачынаюць біць метафары, разгортваюцца шырокія разгалінаванні самых нечаканых асацыяцый».

Мудрагелістую дыялектыку пранікнёна-зацікаўленых узаемадачыненняў паэта і хмельных напояў раскрыў І. Севяранін у вершы «Чые мроі» (1909) з уласцівай яму віртуознай лёгкасцю і вытанчаным адчуваннем смаку і асалод жыцця:

*Я пить люблю, пить много,*
*вкусно,*
*Сливаясь пламенно с вином —*
*Но размышляю об одном*
*И не могу решить искусно —*
*Да, мудрено решить мне это*
*(И в этом вся моя вина!):*
*Поэт ли хочет грез вина,*
*Вино ли просит грез поэта?*

Вобраз віна выступае адной з праяваў дыянісійскага пачатку творчасці У. Жылкі, рэалізаванага праз тэматыку спапяляючай улады натхнення («Узысці на вогнішча натхнення»), стыхій віхору, ветру ў аднайменных вершах, палкім апяванні кахання і пачуццёвых радасцей жыцця. Магчыма, імпульсам больш разгорнутага і смелага ўвасаблення тэмы сталася навучанне ў Карлавым універсітэце (Прага, 1923—1926). Аналізуючы вытокі «багемна-карчомных рыс» лірычнага героя У. Жылкі, вядомы даследчык яго творчасці У. Калеснік у адным з лістоў звярнуўся да сяброўкі студэнцкіх гадоў паэта Л. Краскоўскай з пытаннем аб наяўнасці ў карчомных матывах аўтабіяграфічнай пададплёкі, на што атрымаў катэгарычнае пярэчанне. «Яна лічыць налёт рэстараннай багемнасці літаратурным прыёмам. Прыгадваючы асобу паэта, адрасатка падкрэсліла: «Што датычыцца характару: быў бескампрамісна чэсным з самім сабою, над усё ставіў любоў да народа, да Беларусі». Даследчык лічыць карчомны зігзаг у творчасці паэта штучным, знешнім літаратурным прыёмам, што аслабіў арыгінальнасць вершаў. Але, як нам думаецца, ва ўвязцы са знешняй літаратурнай традыцыяй апявання віна, вінаграду праяўляецца арыгінальнасць індывідуальна-аўтарскай трактоўкі гэтай універсальнай тэмы.

Па меркаванні Цыцэрона, сяброўская гутарка паміж адукаванымі людзьмі ні з чым не параўнальная па прыемнасці, калі яна суправаджаецца віном. Датаваныя 1925 годам «Пентаметры», магчыма, адпавядаюць тагачасным настроям, стану душы беларускага паэта. Выяўленае ў вершы сяброўскае застолле абрамляе глыбакадумныя філасофскія развагі пра хуткаплыннасць маладосці, насычанасць і разнастайнасць форм і праяў жыцця, метафарычным увасабленнем якіх з'яўляецца поўны келіх віна, што надае дадатковую ўрачыстасць моманту:

*Келіхі, сябры, паўней!*
*Асыпаюцца яблыняў кветы,*
*Гіне вясны хараство —*
*бела-ружовы убор,*
*Дзеці ўздыхаюць па ім,*
*але мудрага яснасць няўзрушна;*
*Там, дзе распукваўся квет,*
*к восені выспее плод.*
*Келіхі, сябры, паўней!*
*Час прызначаны кожнай праяве:*
*Моладасць прочкі міне.*
*Сталасці прыйдзе чарга!*

Класічнае афармленне геданістычнага імператыва, праяўленага ў выключным жыццялюбстве, аптымізме і таварыскасці лірычнага героя У. Жылкі, адсылае да напісанай 100 гадоў таму ў 1825 годзе славутай «Вакхічнай песні» А. Пушкіна, якая гучыць дыфірамбам асаладам жыцця і радасцям сяброўства, узмоцненым культавым значэннем віна, што аб'ядноўвае аднадумцаў:

*Полнее стакан наливайте!*
*На звонкое дно,*
*В густое вино*
*Заветные кольца бросайте!*
*Подымем стаканы, содвинем*
*их разом!*
*Да здравствуют музы,*
*да здравствует разум!*

Віно афармляе сімволіка-паэтычную інтэрпрэтацыю тэмы кахання ў вершы У. Жылкі «Віно звініць» (1924). Услед за А. Пушкіным і А. Блокам беларускі паэт наўмысна ігнаруе старажытнагрэчаскую традыцыю ўжываць разбаўленае віно:

*Адно для нудных рэзанёраў*
*Віно разбаўляваць вадой.*
*Я светам недасяжных зораў*
*Гару іскрыста прад табой.*

Лірычны герой верша прапаноўвае каханай насычаную палітру колераў і смакаў «У келіху, да краю поўным, / Чырвона-цёмнае, бы кроў». Да краю поўны келіх і гасціннае запрашэнне «Прыйдзі і пі!..» дэманструюць душэўную шчодрасць і шырыню пачуццяў, высакародства героя. «У патаемна-церпкім хмелі» чакаецца смелае і відовішчнае здзяйсненне чароўных сноў, запаветных спадзяванняў, высокіх парыванняў духу, насуперак непрыглядней рэальнасці. Віно выступае як дэкларацыя жыццёвых каштоўнасцей героя, памежна шчырае, палкае выяўленне-адкрыццё ўласнай душы. Эмацыянальнай дамінантай верша выступае агучаная ў канцы натхнёная прага радасцей жыцця, але здзяйсненне гэтага адчайнага парыву магчыма толькі праз ратавальнае забыццё драматычнай рэальнасці:

*Праз лёс крывавы і лядачы*
*Я прывяду цябе к вясне…*
*О, ўсё згубіўшы да астачы,*
*Ты знойдзеш радасці ў віне!*

Апошнія радкі верша асабліва выразна перагукваюцца з «Незнакомкай» (1906) А. Блока, дзе агучана імкненне да жаноцкасці і прыгажосці і здзяйсненне якога таксама магчыма толькі праз сыход ад рэальнасці.

*В моей душе лежит*
*сокровище,*
*И ключ поручен только мне!*
*Ты право, пьяное чудовище!*
*Я знаю: истина в вине.*

Перыпетыі лёсу, знясільваючая хвароба ўзмацнілі драматычнае гучанне паэзіі У. Жылкі, прывялі да горкага ўсведамлення: «Жыццё — атруты келіх». У дачыненні да віна, як і іншых, больш моцных напояў, актуальнае шырокавядомае выслоўе Парацэльса: «Усё ёсць атрута і ўсё ёсць лекі. І толькі доза робіць лекі атрутай і атруту лекамі». Віно, што было для паэта «ўцехай у няшчасці», ператворыцца ў напоўнены негатывам сімвал самаразбурэння. Звядзенне культавага рытуалу да ўзроўню бытавога п'янства і неад'емных ад яго спакусы і граху, абвастрае жорсткае супрацьстаянне віна і розуму:

*Свядомасці горач мацней*
*алкаголю,*
*Ўжо чарка распутала*
*дзікую волю,*
*Ўжо мэрам бурштыны*
*ў чарцы налітай,*
*Няякавасць гіне і гора*
*пазбыта.*
*Свабодны — і згадкі няма*
*аб устрыманні*
*Бяссорамней рухі, крыклівей*
*жаданні,*
*І штосьці язык недарэчнае*
*плешча…*

У выніку мы назіраем, як пад уздзеяннем чаркі мяняецца ракурс успрыняцця рэчаіснасці: ад узнёсла-патэтычнага, вытанчанага яе варыянта ў вершы «Віно звініць» (1924) да брутальнага, карыкатурнага ў вершы «Свядомасці горач мацней алкаголю» (1927).

Тэма віна ў паэзіі У. Жылкі мае класічнае эстэтычнае ўвасабленне, якое азначае праяву дыянісійскай прагі духоўнага разняволення, жыцця, кахання, услаўленне іх радасцей, вітанне паэтычна-творчага пачатку ва ўспрыманні рэчаіснасці. Віно для паэта — атрыбут прыгожага, магчыма, і багемнага жыцця, сімвал высокіх ісцін і знак узвышэння над паўсядзённасцю. Акрамя таго, як вынікае з беларускага паэтычнага кантэксту 1920-х гадоў, віно і застольная атрыбутыка прыўносілі свае нюансы ў партрэт лірычнага героя, вызначалі філасофскае вымярэнне рэчаіснасці. Піетэт, з якім ставіўся У. Жылка да тэмы, можа быць звязаны з культавым значэннем віна ў хрысціянскай традыцыі, і таму «чырвона-цёмнае, бы кроў» віно можа ўспрымацца як адна з варыяцый хрысціянскай вобразнасці ў творчай спадчыне паэта.

**Жанна ШАЛАДОНАВА**

Вас зацікавіў, усхваляваў артыкул? Падзяліцеся меркаваннямі з іншымі чытачамі «ЛіМа». Лістуйце на адрас рэдакцыі.

# Героі з Рэчы Паспалітай



Новы нумар «Полымя» чакае чытачоў рознага густу і розных зацікаўленняў. Спакойныя, праніклівыя вершы Дзмітрыя Пятровіча — водгулле нядаўняга цёплага лета. Верлібры Вольгі Гапеевай — магчымасць прачытаць п'есу ў адзінаццаці словах і пазнаць уласную гісторыю ва ўсхваляваных маналогах Я-гераіні. Паэма-рэквіем Галыма Жайлыбая «Чорная хустка», перакладзеная з казахскай мовы Адамам Шостакам, прысвечана ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Карагандзінскія выпраўленча-працоўныя лагеры былі найбуйнейшымі ў сістэме ГУЛАГа, і распавядаць пра мясціны, дзе жылі і паміралі колішнія вязні, немагчыма без скрухі:

*Жалоба тут.*
*Сумуе цёмны гай.*
*І слушнае мясцовасці пытанне:*
*«Кабыз, на струнах смерці*
*ты зайграй».*
*Кабыз спявае, што тут ратавання*
*Няма. Тут лёс кідае ў сэрца жвір.*
*Ад лёсу не схаваешся нікуды.*

Проза нумара — гэта пачатак прыгодніцкага і фантасмагарычнага рамана Людмілы Рублеўскай «Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата», а таксама аповесць Алеся Камароўскага «Радаслоўны лісток». Аповесць павінна завабіць выключнасцю галоўнай падзеі — сенсацыйным для сельскай мясцовасці выпадкам сурагатнага мацярынства. Знаходзіцца тут месца і нечакана атрыманай спадчыне: галоўны герой набывае сабе ферму ў роднай вёсцы і ні на імгненне пра гэта не шкадуе. Жарты і кепікі мясцовых рабочых прыбадзёрваюць і надаюць твору адмысловы каларыт, аднак аўтару, відавочна, бракуе імкнення да псіхалагічнай глыбіні...

Раман Л. Рублеўскай распавядае пра тую ж эпоху, што і артыкул Пятра Максімені «Страсці з музычным ухілам». Гэта канец XVIII стагоддзя — час Жана Жака Русо, Екацярыны II, падзелаў Рэчы Паспалітай... Герой П. Максімені — Міхал Казімір Агінскі, аматар тэатра, музыкі і амурных прыгодаў, патрыёт і няўдалы каханак расійскай імператрыцы. Лёгкі, іранічны расповед, багаты на цікавыя гістарычныя факты, — адна з лепшых публікацый жнівеньскага «Полымя». За чытаннем гэтага артыкула чарговым разам даводзіцца пашкадаваць, што рэдакцыя часопіса не змяшчае звесткі пра аўтараў нематацкіх тэкстаў. Можа, у Пятра Максімені ўжо ёсць нямала артыкулаў ці нават асобных выданняў, прысвечаных цікавым постацям з нашай гісторыі?..

Героі іншых матэрыялаў нумара — Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, вядучая салістка музычнага тэатра Маргарыта Александровіч, украінскі пісьменнік Міхаіл Слабашпіцкі. Аўтар кнігі казак «Ці далёка да Афрыкі?» і многіх сур'ёзных «дарослых» твораў распавядае аб праблемах і здабытках украінскай літаратуры. Культурная сітуацыя ў Беларусі і Украіне мае шмат падабенстваў, таму канкрэтныя і ёмістыя адказы М. Слабашпіцкага выклікаюць вялікую цікавасць. А тых, хто цягам жніўня звярнуў увагу на гісторыю Шчучына, даўняга магдэбургскага мястэчка, чакае падагульняльны нарыс Алеся Марціновіча «Дзіўны свет — Шчучыншчына».

**Янка НАТАВЕЦ**

# Вершы на краі лета



Кожнаму, хто захоча пазнаёміцца з творчасцю Валерыя Казакова, я б настойліва раіла звярнуцца спачатку да яго паэзіі. У ёй вы адчуеце тонкага мастака, у той час як проза займае нішу штодзённага, вострасацыяльнага. Зрэшты, і тут ёсць выключэнне. Яго ілюструе публікацыя ў жнівеньскім «Нёмане».

«Реста — это бабушка Ева, зычный голос, властный и упрямый подбородок, кулацкая хватка, чисто выметенный двор, подпол с канистрами самогона, стол как полная чаша...» Казакоў нават не столькі распавядае пра дзяцінства, колькі сцвярджае чалавечнасць і ўсё лепшае, што яшчэ засталося ў нас і што выкараніць немагчыма, якія б жорсткія патрабаванні ні выстаўляў час. Расійскі пісьменнік няспынна нагадвае пра сваё беларускае паходжанне. Часта ён ужывае ў рускамоўным тэксце беларускія словы: «вёска», «дзевяць з гакам кіламетраў», «трасянка», «кросны», «рушнікі», «паліца»...

Цікава, што і ў паэтычнай рубрыцы тэма вясковага дзяцінства развіваецца. Магчыма, справа ў пэўным падабенстве аўтараў: і Валерый Казакоў, і Казімір Камейша ведаюць вёску не праз трэцік асоб, і выдае на тое, што яны блізкія па гадах. Хіба што ў К. Камейшы вёска ператвараецца ў сімвал традыцыі, асновы сучаснага жыцця.

Раман Веры Зелянко «Добрапрыстойная жыццё» адначасова нагадвае «Прыўкрасныя карцінкі» Сімоны дэ Бавуар і салодкую прозу Франсуазы Саган. Героі тут — паспяховыя, прыгожыя, дагледжаныя. Інтэр'еры багатыя, фон — грэчаскае ўзбярэжжа. Але за ўсім гэтым хаваецца роспач чалавека, які разгубіўся і, што самае страшнае, згубіў сябе — сам таго не заўважыўшы. Цяжка сказаць, ці ёсць у «Добрапрыстойным жыцці» хоць адзін шчаслівы персанаж.

Жанна Завацкая надала праблемам сучаснасці «фальклорную» форму. Так, верш «Гамаюн — птица вещая» мог бы гучаць як руская народная песня, тым больш што вобразы запазычаныя выключна з рускай культуры. Верш «Старость» мае падабенства з рамантычнымі творамі рускай літаратуры пачатку XIX стагоддзя. Нездарма падборка атрымала назву «Из тёмного, глухого далека».

Прыкметна вылучаецца — мовай, сілай выяўлення, нават тэматычна — паэзія Вольгі Нарынай, прычым некаторыя з вершаў вы ўжо маглі бачыць у перакладах на беларускую мову на старонках «ЛіМа». Лёля Багдановіч выступае з тыпова жаночай лірыкай.

У нечаканым амплуа празаіка з'яўляецца ў «Нёмане» Навум Гальпяровіч, і ўсё ж сваёй творчай манеры паэт не здраджвае. Таксама ў раздзеле прозы — урывак з рамана Уладзіміра Гніламёдава «Усход».

Што да публіцыстычнай часткі, тут вы можаце пазнаёміцца з жыццём і творчасцю Дзмітрыя Кавалёва, Міхаіла Савіцкага ды іншых цікавых асоб.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Жнівеньская «Маладосць»



Што аб'ядноўвае Дзень беларускага пісьменства, таварыства Бум-Бам-Літ, цэнтр славянскіх моў і культур, Вольфганга Херндорфа, горад Ліду ў 1915 — 1918 гадах і сучасную беларускую літаратуру? Апошні летні нумар часопіса «Маладосць»! Але пра ўсё па парадку.

Безумоўна, самая адметная падзея верасня — гэта Дзень беларускага пісьменства, які сёлета прайшоў на Гродзеншчыне ў горадзе Шчучыне. З гэтай нагоды вокладку жнівеньскага нумара «Маладосці» ўпрыгожвае партрэт славутай паэткі Алаізы Пашкевіч, больш вядомай пад псеўданімам Цётка, якая нарадзілася на тэрыторыі сучаснага Шчучынскага раёна ў фальварку Пешчын. Пад вокладкай можна знайсці гістарычныя фота з выявай палаца Друцкіх-Любецкіх, які адрэстаўравалі да свята, а таксама прачытаць інтэрв'ю з намеснікам начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Шчучынскага райвыканкама Аляксандрам Амшэем, дзе ён раскавёў пра падрыхтоўку горада да значнай падзеі.

У рубрыцы «Ад рукі» змешчаны цікавы артэфакт — афіша літаратурнай імпрэзы ў кракаўскай кавярні «Massolit», зладжанай пры падтрымцы студэнцкага аб'яднання Ягелонскага ўніверсітэта і прысвечанай дзесяцігадоваму юбілею Бум-Бам-Літа. А на наступных старонках — артыкул Арцёма Кавалеўскага, прысвечаны ўжо дваццацігадоваму юбілею гэтага авангарднага аб'яднання.

Далей яшчэ адно цікавае інтэрв'ю — гутарка Тамары Мінюткі з нядаўнімі выпускнікамі філфака БДУ: яны стварылі «Цэнтр славянскіх моў і культур» — адзіную ў Беларусі прыватную моўную школу, дзе можна вучыць усе славянскія мовы, у тым ліку і беларускую.

Літаратурная частка часопіса парадавала паэтычным дэбютам Марыі Чарняўскай (светлыя, шчырыя вершы пра Божую любоў і чалавечае каханне) і празаічнымі, але вельмі лірычнымі замалёўкамі Анастасіі Міхлюк (кранальныя нават назвы апавяданняў: «Роднае-роднае», «Кавалачак шчасця»). Не абмініце падборку апавяданняў Югасі Каляды — вельмі таленавіта напісанай прозы. Рубрыка МДЛУ, як заўжды, цешыць цудоўнымі перакладамі, у гэтым нумары — ўрыўкі з рамана Вольфганга Херндорфа «Чык».

Аддзел крытыкі прапануе рэцэнзіі на кнігі пра каханне ад Юліі Ваўчок, тэатральную крытыку ад Паліны Лісоўскай, традыцыйную кінарубрыку ад Маргарыты Дзяхцяр…

Леанід Лаўрэш распавядае пра побыт павятовага горада з Ліды ў 1915 — 1918 гадах, Мікола Мікуліч знаёміць з такім таямнічым Максімам Танкам. Усяго не пераказаць, ды і бессэнсоўная гэта справа — лепш чытайце жнівеньскі нумар часопіса «Маладосць»!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# ...і вожыкі чытаюць!



У жнівеньскім нумары «Вожыка» рэй вядуць паэты. Міхась Міранові у «Дачных міранізмах» — пра дачнікаў, якія ўвосень, як журавы ў вырай, выпраўляюцца ў горад. Уладзімір Цанунін падслухаў, на што скардзіўся чарвяк рыбаку…

Рубрыка «Вожык» у асобах» прысвечана згадкам пра вядомага паэта-сатырыка Уладзіміра Корбана. З дня нараджэння творцы споўнілася 105 гадоў, ды яго байкі і сёння актуальныя.

«Класікі смяюцца» на гэты раз пад дэвізам «Ні пуху, ні пер'я». Чытач пазнаёміцца з урыўкамі з апавяданняў Астапа Вішні «Паляванне» і «Адкрыццё палявання» ў перакладзе з украінскай Міхася Мірановіча.

Павіншуе «Вожык» шаноўных юбіляраў — аўтара многіх кніг Міхася Сліву, адметнага мастака-карыкатурыста Алега Карповіча, пісьменніка Генадзя Аўласенку.

Назва міні-кніжкі «Хутчэй, вышэй, весялей!», якую чытач атрымлівае «бонусам» разам са жнівеньскім нумарам, прысвечана спорту. Мастакі Алег Папоў, Аляксандр Шміт, Алег Гуцол, Алег Карповіч наглядна прадэманструюць, пра што размаўляюць баксёры, чым пагражае прагляд футбола па тэлевізары з куфлем піва. Літаратары таксама не засталіся «па-за гульнёй». Напрыклад, Уладзімір Скамарох у вершы «Футбольная настальгія» згадаў той час, калі Пракапеня быў мясцовым Марадонам «…і ведаў кожны беларус: Бабруйск — футбольная Сарбона, Пракоп — яе казырны туз».

На апошняй старонцы вокладкі часопіса чытач убачыць фотакомікс пісьменніка Ганада Чарказяна пра тое, як вожык чытае «Вожыка». Не верыце? Хутчэй шукайце жнівеньскі нумар «калючага выдання»!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**



Каханне прыносіць не толькі шчасце, радасць, асалоду, але і трывогі, расчараванні, а, здараецца, і пакутлівы боль. І ўсё ж, калі б прапанавалі выбіраць — душэўны спакой ці каханне з усімі яго непазбежнымі выдаткамі, — я, не вагаючыся, выбраў бы каханне. Бо спакой душы — гэта прыжыццёвая смерць. Паўнату ж, паўнакроўнасць, сапраўднае багацце жыццю надае толькі каханне.
Вершы, сабраныя ў гэтай падборцы, — пра тое ж.

# Я кахаў, пакутаваў, гарэў!

## Спатканне

*Я так даўно цябе чакаў!*
*Ішоў скрозь вёсны, леты, зімы,*
*Але нідзе не сустракаў*
*Я той, каго б назваў любімай.*

*Я так даўно цябе шукаў*
*Па сцежках, бальшаках, гасцінцах.*
*Але нідзе не напаткаў*
*Я той, каго б назваў адзінай.*

*Я вобраз твой у мроях ткаў*
*З рэальнага і незямнога.*
*Цярпліва верыў і чакаў*
*Я тую, што даецца Богам.*

*І раптам —*
*як вясёлка ўваччу*
*І плынь святла жывога...*
*Смяюся я, і плачу, і шапчу:*
*Нарэшце ты прыйшла...*
*Любімая!..*
*Адзіная!..*
*Ад Бога...*

## Не прыедзе...

*Дождж сее спорна, густа*
*З адзінокай хмары рванай...*
*Як няўтульна мне і пуста*
*Без каханай, без каханай!..*

*Папрасіў я ветрык ранні*
*Для тае, каго кахаю,*
*Перадаць маё пасланне:*
*«Я чакаю! Я чакаю!..»*

*І Над лесам, над далінай*
*Угары пачуўся недзе*
*Крык самотны жураўліны:*
*«Не прыедзе... Не прыедзе...»*

* * *

*Я цябе ні ў чым не папракаю,*
*З мірам да другога адпусціў...*
*І на лёс свой злы не наракаю,*
*Што жыццё мне так перакруціў.*

*Спалены масты...*
*Няма вяртання.*
*Засціць вочы шэрая смуга...*
*Ад былога грэшнага кахання —*
*Толькі горкі попел ды туга.*

*Доўга буду сніць цябе я тую,*
*Што калісьці ўранні я сустрэў...*
*Ні пра што цяпер я не шкадую —*
*Я кахаў, пакутаваў, гарэў!*

## Асенні вечар

*Асенні вечар. Над ракою*
*Цяпельца кволае блішчыць.*
*І бор сасновы за спіною*
*Пра штосьці стомлена маўчыць.*

*Маўчу і я. Пара спакою...*
*І грэюць мне душу ў журбе*
*Майго кастра цяпло скупое*
*Ды мара-згадка пра цябе.*

## Ластаўка

*Дождж аціх. І праз маё акно,*
*што адкрыў я ў ліпеньскае ранне,*
*недзе побач стала мне чутно*
*ластаўкі самотнай шчабятанне.*

*Сэрца ўздрыгнула — нібыта ток*
*жылы працяло мне трапятанне.*
*І здалося: гэта ты здалёк*
*птушкай прыляцела на спатканне.*

## Ранняя восень

*Яшчэ і сонца ярка свеціць,*
*І птушкі па садах пяюць...*
*Чаму ж халодны, золкі вецер*
*Душу выстуджвае маю?*

*Запаланілі неба хмары,*
*Дажджы панурыя ідуць...*
*Мае няспраўджаныя мары*
*Пажоўклым лісцем ападуць.*

## Уначы

*Заснулі у гоплі недзе*
*Гарэзы-сініцы шумлівыя..*
*Заціхлі нарэшце й суседзі*
*Надакучліва-гаманлівыя.*

*Усплёскамі смех дзявочы —*
*Разыходзіцца спаць кампанія.*
*Сумуюць пад поглядам ночы*
*Прыпынкі пустыя трамвайныя.*

*Над горадам — месячык востры*
*І ціша — ні з чым не зраўнаная!..*
*Здаецца, аж чую скрозь вёрсты*
*Дыханне тваё, каханая.*

*Змарыў сон салодка-чароўны*
*На грані зямнога й бязмежнага...*
*Як хочацца верыць, князёўна,*
*Што сніш ты цяпер мяне, грэшнага.*

## Прызнанне

*Люблю музыку*
*светлага вясновага рання;*
*задуменнага пошуму*
*векавога бору;*
*шапатліва-спелай*
*духмянай збажыны;*
*доўгачаканага грому*
*жыццядайнай навальніцы;*
*імпэтнага салаўінага пошчаку*
*у старым зарослым садзе;*
*яркіх фарбаў*
*ліставея-чараўніка;*
*радасна-чыстага*
*першага снегу;*
*срэбразвонна-бруістай*
*крыніцы,*
*што б'е з-пад кораня*
*вечна журботнай алешыны.*
*Але ж хіба гэта ўсё*
*можа зраўняцца*
*з той хвалюючай,*
*боскай музыкай,*
*якая прагучала*
*у тваім ціхім*
*сардэчным прызнанні:*
*«Я так без цябе сумавала,*
*мой любы...»*

## Не дарую ніколі...

*Зацяжному дажджу,*
*што спатканне*
*з табою сарваў, —*
*я даўно дараваў.*

*І на снег-ветравей,*
*што дарогу*
*к табе замятаў,*
*крыўдаваць я не стаў.*

*Дый на лёс свой,*
*што позна*
*цябе спаткаў,*
*я ні разу не наракаў.*

*Нат на тых,*
*хто хацеў нас*
*з табой разлучыць,*
*сэрца маё маўчыць.*

*А вось грыпу,*
*які аж на тыдзень*
*цябе змог адняць,*
*я, напэўна, навек*
*не змагу дараваць.*

## На семінары

*Лектар мерна скрыпіць, без спешкі,*
*Морыць нас навуковай нудою...*
*А ў мяне прад вачыма — сцежкі,*
*Па якіх мы блукалі з табою.*

*Забіраецца лектар высока,*
*Думкам вольна, а словам — цесна...*
*У мяне ж уваччу — вясёлка,*
*Што з сабой на стрэчу прынесла.*

*Ў нейкіх лічбах, кругах, палосках*
*Разбіраецца стомлена зала...*
*У мяне ж у вачах — бярозка,*
*Пад якой ты мяне цалавала.*

*Замарыліся ўсе да смерці,*
*Абураючца лекцыяй лена...*
*Мне ж яна, як нішто на свеце,*
*Падалася такою прыемнай!*

## Мая бяссонніца

*Бяссонніца, бяссонніца...*
*Бясконцых думак конніца...*
*Ад іх пагоні сэрца раніцца,*
*Смыліць ажно да самай раніцы.*

*Бяссонніца, бяссонніца...*
*Дабро забылася, благое помніцца.*
*Насоўваюцца крыўды космамі,*
*І джаляць памяць злымі восамі.*

*Бяссонніца, бяссонніца...*
*Душа мая — палонніца*
*Салодкіх мар, трывог балючых,*
*Трымценняў радасных, гаючых.*

*Бяссонніца, бяссонніца...*
*Надзеяй сэрца поўніцца,*
*Бо у бяссонніцы — і гэта знаю я —*
*Твае імя, мая каханая.*

* * *

*Я прадчуваў, што бура будзе,*
*Ўзарвецца купал цішыні...*
*А сэрца замірала ў грудзях,*
*А сэрца прагла вышыні.*

*І вось прабег шумок па лісці,*
*Гул нарастаў, ішоў здаля...*
*І паплыла з-пад ног кудысьці*
*Ды закружылася зямля.*

*І заспявалі флейты, скрыпкі...*
*Я скрозь ружовы плыў туман.*
*А пада мной, унізе, дыбкі*
*Ўставала мора-акіян.*

*І я ўзлятаў, раскалыханы,*
*У неба аж да самых зор.*
*І ўжо не флейты, а арганы*
*Страсалі зранены прастор.*

*Купаўся я ва ўсіх стыхіях*
*І быў з багамі нараўне.*
*Ды хвалі стромкія, тугія*
*На бераг вынеслі мяне.*

*І на дыван зялёны, пругкі*
*Упаў, стамлёны, ледзь жывы.*
*Змаўкалі ўвысі чараў гукі,*
*бы адляталі жураўы.*

*Паволі мора аціхала,*
*Душу лагодзіў родны пах...*
*Са мною побач ты ляжала*
*З усмешкай шчасця на губах.*

---

**Анастасія КУЗЬМІЧОВА**



Паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Піша на рускай мове. Аўтар паэтычнага зборніка «Быть может меня приютят?» (2005) і дыска вершаў «Яхидна» (2011). Упершыню ў «ЛіМе» — вершы Анастасіі Кузьмічовай, перастворaныя па-беларуску.

## Букет

*Навошта дорыш ты букет апалых рук,*
*Калі сціpае памяць без сумневу*
*І позіркі маўкліва йдуць па сценах…*
*Няма нікога тут: пустэльны брук.*
*Калі без попыту ўвесь час дажджы,*
*Па вокнах іх струмень бясконца тут спаўзае…*
*А кажуць людзі, што дажджы змываюць*
*І сум, і крыўду, нібы віражы…*
*Не варта апраўданняў нам шукаць,*
*І вэрхал слоў, памыйніцу размоваў.*
*Я адквіталася і без дамовы*
*За шчасця бляск, якому не трываць...*
*Яно прайшло, яго не вернеш сілай.*
*І добра, што прайшло, бо нешта — будзе.*
*Я спадзяюся: раптам дождж астудзіць*
*Тугу. А шчасце — гэта проста мыла.*
*Пакінь сабе нядораны букет.*
*Павер мне, што даўно я ўжо не плачу.*
*І сэнсу слёзы праліваць не бачу*
*Дарэмна. Кроплі маюць, ведаеш, шкілет.*
*Я не зламаю ім хрыбет…*

***

*Адкрытымі вокнамі*
*Пахілены дом*
*З балконаў глядзіць на мяне.*
*І грушай абгрызенай*
*Ляжыць за вуглом*
*Спякотаю змучаны дзень.*
*Да смеху пасушаны*
*Цыдулкі са слоў.*
*Няма чым кідаць мне ў адказ.*
*І ў кіслай вячэры*
*Каханне наноў.*
*Кахання практычна няма…*

***

*Я цябе кахаю ціха,*
*Не кранаючы спакою.*
*Ведай: з крумкачом лячу я*
*Вусцішна над галавою.*
*Я кахаю так спакойна,*
*Быццам лаўка ў тваім садзе.*
*Кропляй на тваю далоньку*
*У залеве я прысяду.*
*Я кахаю так, як хочаш.*
*Асцярожна. Таямніча…*
*Ранкам след мінулай ночы*
*Накрываю я аблічам…*

***

*Акружыны ідуць па вадзе — толькі кроплі,*
*Я бачу ў іх люстры няўдачаў адбіткі.*
*І чапляй вар'яцкай глытаю іх водар*
*З балотаў адчаю ў дрыгве смак прывідны.*
*Квітнеюць маёй архідэі надзеі*
*Наіўна, іх глей падымае трывогі.*
*І кожнае заўтра варушыць сумленне,*
*І кожны радок бы зазор на дарозе.*
*Штодзённай. А дождж усміхаецца ў вокны*
*Вадою ліе з вечнай зорнай крынічкі.*
*А вецер смяецца. І шчокі ўсё мокнуць.*
*Згадаю маўклівыя словы, бы знічкі…*

***

*А рукі ўсё ж не вольныя мае:*
*Лісток сціскаю я. Ад клёна…*
*Кахання хочацца не толькі ўва сне,*
*Кахання, што прыйшло ад паштальёна.*
*А ён, паклаўшы на далонь маю*
*Ліст ад цябе — з «нікуды» у «нікуды», —*
*Збяжыць. І дзесь, агледзеўшы зямлю,*
*За небакраем я пабачу цуды!*
*А рукі ўсё ж не вольныя мае.*
*Трымаю ліст. І тут не месца іншым словам,*
*А толькі цудаў цьмяны след.*
*Далечыня.*
*І цень ад позіркаў таго, што быць магло бы.*
*Але не адбывалася ні дня…*

**Пераклаў з рускай мовы Адам ШОСТАК**

# Іван КАРЭНДА

**Ёсць такі выраз: «энергія ўспамінаў». Сэнс яго ўсведамляеш не адразу, а з цягам часу, на пэўным жыццёвым адрэзку. Успаміны-згадкі ходзяць за намі неадступна, да апошняга дня. Іх энергія сапраўды магутная: яна ўвасабляецца ў нашых словах і ўчынках, сілкуе нашы думкі і мары. Шкада, што толькі зрэдку рупіўся, каб тое-сёе пакласці на паперу.**

## Здумкі-згадкі

**Нататкі**

***

Хочаш рассмяшыць Бога — раскажы яму пра свае планы на заўтрашні дзень. Напэўна, гэтае трапнае выказванне пайшло ад творцы — пісьменніка, мастака альбо кампазітара. Бо да творчых планаў яно стасуецца найлепш. Схіляешся над аркушам паперы ці ўключаеш камп'ютар — і ад першачарговых задумак часам застаюцца «рожкі ды ножкі». А бывае, што і зусім белае поле паперы ці камп'ютарнай старонкі.

***

Каб спаліць свае рукапісы, трэба быць класікам — як Мікалай Гогаль. Пра гэта згадваю, перабіраючы ўласны архіў. І адно шкада выкінуць, і другое карціць пакінуць…

Вось блакнот студэнцкай пары. З першым апавяданнем — «Хутчэй бы восень…». Вядома ж, пра каханне. Памятаю, як адразу кінуўся паказаць яго Аляксею Карпюку — аўтару славутай «Дануты», аднаго з лепшых твораў на вечную тэму. І як астудзіў, асадзіў мой гарачы пачаткоўскі пыл таленавіты празаік! Ён нічога не стаў выпраўляць у тэксце, а толькі прайшоўся сям-там па радках хвалістай лініяй. Потым доўга дадводзіў мне, чым трэба «браць» чытача…

І як пасля гэтага знішчыць блакнот?! Па ім жа хадзіла рука самога Карпюка!.. Вялікага майстра і надзвычай патрабавальнага да сваёй творчасці пісьменніка, які шмат разоў перапісваў тую ж «Дануту».

У адносінах да пачаткоўцаў, як і да ўсяго ў жыцці, ён быў непахісным і бескампрамісным.

Незабыўны ўрок літаратурнай працы Аляксей Карпюк даў, напэўна, не толькі мне.

***

Шчыра радуюся выданню выбраных твораў Алеся Пісьмянкова і вельмі ўдалай назве кнігі. Пісьмянкоўскую ўсмешку-развітанку «не знікай», якая дала назву гэтаму зборніку, магу пацвердзіць і я. Так звычайна заканчваліся і мае сустрэчы з Алесем.

У памяці амаль штодня ўспльваюць яго лірычныя радкі: «Табе, мой век, я не суддзя…», «Зноў дождж над Бацькаўшчынай хворай…», «Вялікі грэх не быць паэтам…», «Я веру, Божа, што нас не кінеш…», «Трывогаю лоб узараны…», «Мёдам на ўсю Еўропу пахнуць стагі і копы…» ды шмат якія іншыя.

Упэўнены: імя Алеся Пісьмянкова, яго непаўторны мастакоўскі талент ніколі не знікнуць з зорнага неба беларускай паэзіі.

***

Чым болей мне гадоў, тым болей суму ў душы. Але чамусьці не хочацца адпрэчваць, праганяць яго. З ім спакойна, хораша, утульна. Ці не таму, што не чужы ён мне, што «назапашаны» ўласнай душою?

***

СМІ паведамілі пра смерць Міхаіла Цімафеевіча Калашнікава, славутага канструктара стралковай зброі.

Зашчымела і маё сэрца... Прыгадаліся сустрэчы з гэтым сапраўды неардынарным чалавекам, якіх у мяне было дзве, прысвечаны яму верш, які я прачытаў на юбілейным вечары з нагоды яго 90-годдзя, што праходзіў у Маскве 26 снежня 2009 года.

На той вечар-партрэт я трапіў выпадкова: запрашальны білет мне даў зямляк-аднавясковец, вядомы ў Расіі генерал-навуковец.

Найбольш цікавіла мяне, як ацэньвае сваё доўгае жыццё сам Міхаіл Цімафеевіч. Змайстраваны ім аўтамат АК-47 вядомы ва ўсім свеце, стаў легендарным, яго выява ёсць нават на гербе Мазамбіка, а дзяцей там дагэтуль калашамі называюць.

Калі на сцэну падняўся шаноўны юбіляр, я ўключыў дыктафон.

— Што такое 90 гадоў? Пражыта шмат, а зроблена пакуль што мала. Я збіраюся працягваць сваю справу. Як галоўны канструктар стралковай зброі і кансультант генеральнага дырэктара Расабаронэкспарта, я ўздзельнічаю ў замежных выстаўках узбраенняў. Гляджу, а што робяць нашы канкурэнты? Даводзіцца канстатаваць: больш дасканалай зброі, чым тая, што носіць маё імя, яшчэ ніхто не стварыў. Хто зробіць лепшую, я першы пацісну руку. Упэўнены, што мая зброя абараняе дабро: яе бяруць у рукі, каб адстаяць гонар, свабоду і незалежнасць краіны, усталяваць сацыяльную справядлівасць, засланіць ад злачынцаў сям'ю. Хоць, зрэшты, бывае і наадварот, калі аўтамат у руках агрэсараў ці проста нелюдзяў… А яшчэ я напісаў шэсць кніг. Гэта неабходна для маладых, каб памяталі: толькі вялікая праца можа вывесці дзяржаву і чалавека на высокія пазіцыі. Менавіта такі вывад зрабіў я за дзевяць пражытых дзесяцігоддзяў…







Шмат чым запомніўся той вечар. Прэзентацыяй кнігі пра юбіляра нашага земляка Аляксандра Ужанава, успамінам Міхаіла Цімафеевіча пра тое, як Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка перадаў яму незвычайны падарунак — саджанцы яблынь, якія цвітуць цяпер пад акном на яго лецішчы, канцэртам ваеннага ансамбля імя Аляксандрава, фатаграфаваннем на памяць з галоўным героем урачыстасці.

Аднак найбольшае ўзрушэнне прыйшло крыху пазней, пасля выхаду з залы, калі я заняў чаргу ў гардэробе. Міжволі давялося пачуць ззаду мужчынскі дыялог:

— Некалькі гадоў дакументы на прысваенне Міхаілу Цімафеевічу звання Героя Расіі ляжалі пад сукном у высокіх кабінетах, пакуль чыноўнікам не далі хабар.

— Не можа быць!..

— Такое не прыдумаеш.

— Які сорам!..

— Зялёненькія сораму не ведаюць…

І мне стала крыўдна за чалавека, імя якога з павагай прамаўляюць на ўсіх кантынентах, чыё вынаходніцтва — аўтамат Калашнікава — унесена ў спіс самых адметных дасягненняў XX стагоддзя.

Думаю, што сам Міхаіл Цімафеевіч, сціплы і прынцыповы чалавек, і не здагадваўся пра такое «геройства» чыноўнікаў.

## Жарты-жартачкі…

**Гісторыі-мініяцюры**

Сур'ёзнае і смешнае жывуць побач — такі няпісаны закон зямнога чалавечага існавання. Адметная, бясспрэчная дыялектыка грамадскай раўнавагі, дзякуючы чаму падтрымліваецца баланс супольных эмоцый і абнаўляецца патэнцыял стваральнай энергіі людзей.

Пра гэта — замалёўкі з натуры, рэальныя жыццёвыя факты, сведкам якіх быў я сам або пра якія расказалі мне блізкія людзі.

***

Не абмінула і мяне настаўніцкая «доля» на мянушкі. Рэдка каго з педагогаў гэта не закранае. І нядзіўна: столькі пар зоркіх вачэй глядзяць на цябе штодзень, прасвечваючы, нібы рэнтгенам, наскрозь.

Падчас працы ў Ракавіцкай сярэдняй школе мне давялося жыць кватарантам у сям'і, дзе была дзяўчынка-васьмікласніца Аня.

Аднойчы яна збянтэжыла мяне нечаканым пытаннем:

— Ведаеце, якую мянушку далі дзеці настаўніку беларускай мовы?

— Мне?

— А каму ж яшчэ…

— Ну і якую?

— Аловак.

— Аловак? Няўжо я такі худы?

— Ды не таму?

— А чаму?

— Карэнда — ад рускага слова «карандаш». А па-беларуску як будзе?

— Аловак, — пацвердзіў я.

— Вось-вось… Ха-ха-ха... — зарагатала Аня.

Засмяяўся і я.

— І не крыўдна? — трохі саромеючыся, спытала мая маладая гаспадыня.

— Зусім не. Я ганаруся прозвішчам, якое атрымаў у спадчыну ад сваіх продкаў: напэўна, яно ад слова «корань» або «карэнне» — і, мабыць, азначае «карэнны», «тутэйшы», «мясцовы».

Пра «карандашнае» паходжанне майго прозвішча тады я пачуў упершыню. І не паверыў. Не веру і сёння.

***

І ў бюракратычных канторах, дзе я працаваў не адзін год, калі-нікалі бывае смешна. Узгадваю такі даўні выпадак.

Іду па калідоры. Насустрач — мужчына з нейкімі паперамі ў руках. Круціць галавою налева-направа, прыглядваецца да шыльдаў на дзвярах кабінетаў. Заўважыўшы мяне, пытае:

— А дзе тут Капуста?

— Капусту трэба на градах або ў краме шукаць, — адказваю жартам.

— Не, я ўсур'ёз пытаюся.

— А я сур'ёзна і адказваю — няма ў нас Капусты.

— Ну як няма?! Ён жа мяне запрасіў — сказаў, што чакае на чацвёртым паверсе.

— Капуста ёсць ва ўстанове Першамайскага раёна, — падказваю наведвальніку.

— Не, мне трэба ў Маскоўскім.

— А ў Маскоўскім ёсць толькі Качан.

Чалавек зарагатаў.

Прыемна смяяцца з самога сябе!

***

У 1985 годзе ў Мінск, на гарадскую партыйную канферэнцыю, прыязджаў тагачасны Старшыня Савета Міністраў СССР Мікалай Рыжкоў, які быў прызначаны на гэтую пасаду зусім нядаўна. У сваёй прамове перад дэлегатамі ён пакрытыкаваў гарадскія ўлады за даўгабуд — марудныя тэмпы будаўніцтва гасцініцы «Беларусь». Сапраўды, будоўля чамусьці зацягвалася.

Пасля гэтай прамовы па горадзе папоўз такі анекдот: «Вязуць замежных турыстаў па праспекце Машэрава (цяперашнім праспекце Пераможцаў). Экскурсавод распавядае пра гісторыю горада, пра бітву на Нямізе, прыгожыя будынкі злева і справа. Мінаюць Палац спорту. Справа, крыху зводдаль, відаць каркас будучай гасцініцы «Беларусь», каля яе ўзвышаецца будаўнічы кран. Адзін з турыстаў пытае: «А што там справа будуецца?» На што экскурсавод, забыўшыся пра свой статус і правілы гасціннасці, з гарычу наракае: «А хто іх ведае! Ужо гадоў пятнаццаць будуюць і пабудаваць ніяк не могуць!» Замежных турыстаў, як было прынята ў тыя гады, суправаджаў чалавек з органаў дзяржаўнай бяспекі. І, вядома, экскурсаводу аб'явілі вымову за выказванне, якое ганьбіць савецкі лад жыцця. Назаўтра — такая ж самая экскурсія, той самы маршрут. І тое самае пытанне: «А што там справа будуецца?» Экскурсавод, нават не міргнуўшы вокам, са здзіўленнем прамаўляе: «Дзе? Не бачу. Учора тут яшчэ нічога не было…» Тэмпы савецкага будаўніцтва гэтай групе замежных турыстаў, напэўна, падаліся фантастычнымі.

Штрыхі

# Дзе Дзісёнка віецца…



Што такое штрых? Вось як падае тлумачальны слоўнік: «Тонкая, кароткая лінія, рыска малюнка, чарцяжа, партрэта, карціны і падзеі або асобны момант, характэрная рыса, падрабязнасць чаго-небудзь». Так бывае, асабліва ў мастакоў, якія рыхтуюцца да напісання вялікага палатна: на чыстае поле паперы або халста наносяцца рыскі, якія потым становяцца сапраўднай карцінай. Бывае, што гэтыя накіды дазваляюць лепш зразумець сутнасць твора, паказаць яго гісторыю, падкрэсліць пэўныя нюансы. Таму, абдумваючы тое, што звязана з нашай айчыннай культурай, прыгожым пісьменствам, увогуле з тым, што адбываецца з намі і вакол, з'явіліся гэтыя запісы.

...Ёсць мясціны, нібы пацалаваныя Богам. Такіх у нашым краі нямала, але іншая раптам так возьме за душу, што мроіцца чыста і светла і прыходзіць ва ўспамін, сеючы лагоду, і спакой, і нейкую неўтаймоўную любасць, бо гэта сваё, запаветнае і жаданае.

Часта зайздрошчу мастакам, бо яны маюць талент некалькімі штрыхамі вярнуць на палатно ці паперу гэтую прыгажосць, стварыць жывы краявід, які застаецца з намі, нават калі апынуцца далёка ад упадабанага месца. Сёння гэта можа зрабіць і фотаапарат, і камера, але толькі мастак здольны ўдыхнуць у самы прыгожы пейзаж цеплыню свайго зроку, тонкія фібры душэўнага замілавання.

Германавічы… Ціхае мястэчка, якое паўстае на дарозе з Полацка на Шаркаўшчыну і Глыбокае, вабячы здалёк магутным гмахам касцёла, гэткай дамінантай сярод буйной зеляніны і размаітым дываном кветак, палёў і нябёсаў.

Такія вось пейзажы пераносіў на свае маляванкі «вечны вандроўнік», паэт і дзівак Язэп Драздовіч. І невыпадкова першы музей, першая карцінная галерэя была створана менавіта тут, у старым будынку школы, руплівымі высілкамі мясцовых настаўнікаў Ады Райчонак і Кліменція Кожана.

Трэба было даспець ім, патрыётам краю, і тым, хто заўсёды нёс у душы высокі агонь любові і годнасці, каб зразумець, што той дзядзька з ляскай, што кожнаму, хто прытуліў яго на начлег, дарыў прыгажосць роднай зямлі і мовы, і ёсць высокая постаць народнага асветніка і празорцы, якой трэба ганарыцца і якую трэба ўшаноўваць.

Я не раз праязджаў паўз вузкую звілістую рэчку Дзісёнку, з зарослымі кустоўем і разнатраўем берагамі, з простымі сялянскімі хатамі паабапал берагоў, са старажытнымі могілкамі, якія на Дзяды расквечваліся свечкамі, ствараючы непаўторную карціну, вартую пэндзля самых славутых майстроў.

Памятаю, калі пераехаў у Мінск і адзін харошы паэт настойліва прапаноўваў паказаць мне сваё Прыдзвінне, я выбраў менавіта маршрут праз мой родны Полацк. Мы ехалі на машыне, і я хваляваўся, як успрымуць мае спадарожнікі тое, што я хачу ім паказаць, ці адчуюць яны трапятанне душы, якое адчуваю я, бываючы тут. Дзякуй богу, адчулі.

Ада Эльеўна Райчонак з тварам, асветленым біблейскімі вачыма, як на старажытных фрэсках, і парэпанымі рабочымі рукамі сялянкі… У гэта няпроста паверыць, але, па яе словах, яна падлеткам трымала мяне, малога, на руках у маім полацкім «Пітомніку», калі Ада Аронава з маці, удавой франтавіка, жыла ў нашым прыгарадным пасёлку.

Настаўніцай яна вучыла дзяцей дабрыні і любові да свайго роднага куточка і жыла звычайным сялянскім жыццём: у вольны час працавала ў полі, пасвіла худобу, варыла абеды і вячэры для сваёй сям'і… Яе глыбокая, асэнсаваная і выпакутаваная беларускасць перадалася сыну Мішы, таленавітаму празаіку, які так рана і нечарэчна пайшоў з жыцця. Я заўсёды саромеўся пытацца, як вось гэтая біблейская мудрасць, паяднаўшыся з беларускай сялянскай прастатой і шчырасцю, нарадзіла ў яе асобе сапраўдную патрыётку і апякунку ўсяго беларускага, дала расткі для высокага служэння роднай зямлі.

Сюды цяпер штогод прыязджаюць мастакі, ладзяць пленэры, глядзяць уначы на зоркі, якімі любаваўся Драздовіч, удыхаюць гаючае паветра цудоўнага куточка нашай Бацькаўшчыны. І з іх новых штрыхоў нараджаецца велічная карціна зямлі, пацалаванай Богам.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# У эфіры — Заслаўе

**Старажытны горад адсвяткаваў сваё 1030-годдзе. Ізяслаўль, ён жа Жаслаўль і Заслаў, памятае кожны, хто ведае знакамітую легенду пра Ізяслава і яго маці, прыгожую дачку Рагвалода.**




*Вядучыя мабільнай студыі прамога эфіру канала «Культура» Уладзімір Трапянок і Вікторыя Грыб падчас размовы са старшым навуковым супрацоўнікам музея-запаведніка «Заслаўе» Інэсай Сабалеўскай.*

Заснаваны яшчэ кіеўскім князем Уладзімірам, горад мае цікавую гісторыю. Князь загадаў пабудаваць яго для сваёй былой жонкі Рагнеды і сына Ізяслава. Прайшло шмат часу, але Заслаўе ганарыцца знакамітымі князямі і беражэ памяць пра іх. Старажытны горад, з якога калісьці пачыналася Беларусь, захаваў мноства цікавага для сваіх гасцей. Гісторыя кожнага стагоддзя, якое ён пражываў, адзначана пэўным культурным помнікам. Пачынальнікам стала гарадзішча «Замэчак», потым з'явіўся Кальвінскі збор, Рынычная плошча, касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі… Тут пры дапамозе тагачаснага ўладальніка Заслаўя мецэната Яна Глябовіча працаваў над сваім «Катэхізісам» асветнік Сымон Будны. У святочны дзень у Заслаўе завітаў канал «Культура» Беларускага радыё, адна з задач якога — знаёміць з нашай спадчынай, гісторыяй, асобамі, што стваралі культуру Беларусі. Пазнаёміцца з праектамі канала і іх вядучымі падчас святкавання юбілею Заслаўя можна было ў імправізаванай студыі прамога эфіру жыхароў Заслаўя, канцэрт. Падтрымалі нас і пастаянныя слухачы, якія вырашылі бавіць выхадны дзень разам з намі. Супрацоўнікі Заслаўскага музея-запаведніка арганізавалі захапляльную экскурсію.

Свята ўдалося. Хтосьці за сучаснымі будынкамі разглядзеў старажытныя пагоркі, праз якія ехалі калісь устрывожаныя невядомым будучым Рагнеда з сынам. Хтосьці, акрамя сучасных музычных рытмаў, пачуў хрыплаваты голас старажытнай ліры. Можна было пакаштаваць крупніка на мясцовых травах у доме завознікаў. Своеасаблівым турыстычным аб'ектам стаў і мабільны павільён канала «Культура», які размясціўся каля музея.



*Этна-фолк гурт «Guda».*

ў цэнтры горада, адкуль вялася трансляцыя рэпартажаў пра падзеі свята, а таксама адбыўся «круглы стол» на тэму «Як развівацца старажытнаму Заслаўю». Дырэктар канала «Культура» Кацярына Агеева расказала пра вытокі праекта:

— Паўдзельнічаць у святкаванні 1030-годдзя Заслаўя нам прапанаваў дырэктар Заслаўскага музея-запаведніка Мікалай Паграноўскі. Ён пазаштатны аўтар канала і даўні яго сябар і дарадца. Нам падалося цікавым у разгар святкавання папрацаваць у прасторы бадай самага легендарнага беларускага мястэчка, і не проста папрацаваць. Мы задумалі атмасферны праект, падчас якога пастараліся дабавіць юбілею старажытнага горада дадатковыя фарбы: «жывы» эфір, трансляцыя перадач канала праз калонкі для

Жадаючыя назіралі за работай радыёвядучых Уладзіміра Трапянка і Вікторыі Грыб, а таксама гасцей мабільнай студыі, пазнаёміліся з фотавыстаўкамі «Радыё "Культура": візуалізацыя» і пабачылі відэафільм пра творчы калектыў радыёканала.

Як адзначыў загадчык аддзела інфармацыі канала «Культура» Уладзімір Трапянок, адбыліся вельмі цікавыя сустрэчы, шчырыя размовы, якія пацвердзілі: канал «Культура» для жыхароў Заслаўя — даўно і добра знаёмы сябар.

— Запомнілася гутарка з загадчыкам Заслаўскай дзіцячай бібліятэкі Наталляй Грыгор'евай, старшым навуковым супрацоўнікам музея-запаведніка «Заслаўе» Інэсай Сабалеўскай, з мастаком Віктарам Данілавым, выстаўку якога, прысвечаную роднаму гораду, можна пабачыць у дзіцячай школе мастацтваў.

Заслаўе прываблівае спакоем, хочацца хадзіць па старажытных вуліцах, наталяцца хараством і веліччу помнікаў культуры. Уразіла скульптурная кампазіцыя — помнік князю Ізяславу, драўляныя выявы, якія вяртаюць да такога рэдкага і шчымлівага адчування аўтэнтычнасці. Усім, хто хоча адпачыць душой, варта прыязджаць у Заслаўе.

Эфірны дзень канала «Культура» цалкам быў прысвечаны гораду: «Дыялогі пра культуру» з Мікалаем Паграноўскім, літаратурны праект «Новыя імёны» (госць — паэтэса з Заслаўя Святлана Быкава), краязнаўчая праграма «Ружа вятроў» (пра гісторыю горада і турыстычныя маршруты). У передачы «Радыётэатр. Лепшае» прагучаў спектакль Артура Вольскага «Выгнанне Рагнеды», а ў праекце «Ліцэй» слухачы пазнаёміліся са старажытнай літаратурай і яе яркім прадстаўніком Сымонам Будным, яго жыццём і служэннем слову.

Якое свята без музыкі? У эфіры гучала беларуская класіка, камерная музыка. Гэта творы Міхала Клеафаса Агінскага, Мечыслава Карловіча, Мікалая Аладава, Дзмітрыя Смольскага, Алега Ходоскі, Валерыя Іванова і ўраджэнца Заслаўя музыканта Віктара Помазава. Культурным падарункам ад радыёканала стаў канцэрт беларускай музыкі ў касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Творы Міхала Клеафаса Агінскага, Ларысы Сімаковіч, Аляксандра Літвіноўскага прагучалі ў выкананні камернага хору «Concordia» пад кіраўніцтвам Галіны Казіміроўскай. Узоры беларускіх народных спеваў прадэманстраваў гурт «Рада» (мастацкі кіраўнік Алесь Жукоўскі) і этна-фолк гурт «GUDA». Вёў канцэрт музычны рэдактар, кампазітар Віктар Кісцень.

1030-годдзе Заслаўя яшчэ раз нагадвае пра велічнасць культуры Беларусі, яе сучаснае пераасэнсаванне. Разам мы зможам перадаць гэтую культурную энцыклапедыю нашым нашчадкам.

**Маргарыта ПРОХАР**

# Аб'яднаць намаганні, абмяняцца ідэямі



Фота Кастуся Дробава.

Міжнародны «круглы стол» «Сугучча: літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства», ініцыяваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкім домам «Звязда» і выдавецтвам «Мастацкая літаратура», адбыўся ў Шчучынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Цёткі падчас Дня беларускага пісьменства. Пра што гаварылі ўдзельнікі «круглага стала»?

**Лілія Ананіч, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь:**

— Гэты «круглы стол» сабраў прызнаных літаратараў розных краін. Шчыра вітаем нашых добрых сяброў, творцаў, якія робяць свой унёсак у развіццё не толькі сусветнай літаратуры і сусветнага кнігавыдання, але і ў добрасуседскія стасункі паміж краінамі і народамі. У гэтым вялікая місія Слова, Кнігі і сённяшняга «круглага стала», які праходзіць у Беларусі ўжо ў дзявяты раз. Мы гатовы сумеснымі намаганнямі, улічваючы ўсе ідэі і прапановы, умацоўваць нашу агульную культурную, інфармацыйную прастору. Сёння ў Беларусі больш як восем мільёнаў інтэрнэт-карыстальнікаў. Як зрабіць так, каб кніга і таленавітае, глыбокае, актуальнае слова пісьменніка, навукоўца, грамадскага дзеяча фарміравала новае пакаленне? Менавіта ў гэтым — задача не толькі пісьменніцкай суполкі, але і ўсёй дзяржавы, на гэта скіравана дзяржаўная інфармацыйная палітыка. Дзякуючы Выдавецкаму дому «Звязда» мы сустракаемся ў межах сучаснага інтэрнэт-партала «Сугучча», дзе можам чытаць вашы публіцыстычныя артыкулы, даведваемся пра вашы літаратурныя поспехі. Вельмі важна, каб мы пастаянна падтрымлівалі сувязь, захоўваючы духоўнасць, якая ўмацоўвае не толькі Беларусь. Сёння духоўнасць — галоўнае, што павінна захоўвацца ў стасунках паміж краінамі і народамі. Трэба пастаянна думаць, як умацоўваць ніці дружбы і братэрства. Упэўнена, што праект «Сугучча» будзе мець працяг. Увогуле, паколькі наступны «круглы стол» будзе юбілейны — дзясяты, варта выдаць зборнік твораў тых творцаў, якія цягам усіх гэтых гадоў працуюць над праектам «Сугучча».

**Мікалай Чаргінец, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Сёння пісьменнікі розных краін аб'ядноўваюць свае намаганні дзеля перамогі дабра над злом. Тэрарызм, голад і іншыя глабальныя праблемы спараджаюць перанасычанасць літаратуры пошласцю, жорсткасцю, цынізмам, правакуюць злачынствы, самае страшнае з якіх — вайна, а людзей прыводзяць да масавых спроб знайсці лепшую долю за мяжой. Таму вельмі важна, каб на змену зброі, якая знішчае народы і культуры, прыйшло слова. Задача сучаснай літаратуры — абапіраючыся на класічную спадчыну, развіць творчы патэнцыял выбітных пісьменнікаў, каб літаратура зноў стала вядучай сілай у свеце вечных каштоўнасцей. Спадзяюся, што нашы творчыя сустрэчы будуць працягвацца.

**Віктар Лісковіч, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама:**

— Беларусь — адкрытая краіна, і вельмі хацелася б, каб праз пісьменнікаў, журналістаў з іншых краін да чытача даводзілася аб'ектыўная інфармацыя. Трэба прапаведаваць мір і спакой, нягледзячы на шматлікія працэсы, якія гэтаму перашкаджаюць. Прыемна, што на нашай сустрэчы прысутнічае шмат замежных гасцей.

**Сяргей Ложачнік, старшыня Шчучынскага райвыканкама:**

— Напярэдадні свята было немалаважна стварыць спрыяльныя ўмовы для арганізацыі Дня беларускага пісьменства. Шчучыншчына — край з багатай гісторыяй. З гэтымі мясцінамі звязаны лёсы многіх беларускіх асветнікаў. Думаецца, сёлетнія ўрачыстасці застануцца ў памяці гасцей і ўдзельнікаў надоўга.

**Алесь Карлюкевіч, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда»:**

— У працы «круглага стала» ўдзельнічае вялікая дэлегацыя членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Хацеў бы падкрэсліць, што ў СПБ склалася маштабная практыка міжнародных кантактаў, звязаных з літаратурна-мастацкім прадстаўленнем нашай краіны ў свеце, перш за ўсё ў Расіі, постсавецкіх дзяржавах, ды і ў Еўропе ў цэлым. Для абмеркавання ў межах «круглага стала» прапануюцца наступныя тэмы: «Сучасная літаратура ў дыялогу з класікай», «Праблемы перакладу беларускай літаратуры на іншыя мовы», «Вобраз Беларусі ў сучаснай замежнай літаратуры», «Сучасная славянская літаратура», «Матывацыйнае значэнне літаратуры ў выхаванні маладога пакалення», «Бібліятэка Перамогі: літаратура пра вайну ў святле гуманістычных традыцый», «Роля літаратуры пра вайну ў маральным выхаванні асобы», «Будучыня сучаснай літаратуры», «Тэндэнцыі развіцця кніжнай справы ў Беларусі», «Прысутнасць беларускіх выданняў за мяжой», «Аўтарскае права: праблемы, з якімі сутыкаюцца пісьменнік і выдавецтва і шляхі іх вырашэння», «Ці магчыма адраджэнне традыцый тоўстых літаратурных часопісаў і ці ёсць у гэтым неабходнасць?», «Серыя кніг — эфектыўны інструмент папулярызацыі літаратуры ў інфармацыйнай прасторы».

**Аляксандр Казінцаў, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» (Расія):**

— Сёлета ў Расіі прайшоў шэраг творчых сустрэч галоўных рэдактараў тоўстых літаратурных часопісаў. У грамадстве назіраецца сумная тэндэнцыя: культура страчвае сваю аўдыторыю. Таму трэба ратаваць культуру ў цэлым. Гэта задача дзяржавы. У Беларусі дзяржаўная падтрымка адчувальная, і гэта мудрая палітыка. Калі б такіх часопісаў не было, зніклі б цэлыя жанры літаратуры — узгадаем, прыкладам, часопісы пушкінскай, някрасаўскай пары! І невыпадкова ўжо шмат гадоў «Наш современник» прапагандуе менавіта беларускую літаратуру, слова самага блізкага нам сярод славянскіх народаў. Вось ужо цягам адзінаццаці год сёмы нумар нашага часопіса пастаянна прысвячаецца беларускай літаратуры. У ліку апублікаваных — творы Алеся Бадака, Сяргея Трахімёнка, Міхася Пазнякова, Андрэя Скарынкіна, Генадзя Пашкова… Сёлета старонкі, прысвечаныя творам беларускіх аўтараў, можна знайсці ў кожным нумары часопіса.

**Георгій Прахін, празаік, дырэктар выдавецтва «Художественная литература» (Расія):**

— Першаснова літаратуры — мова. Слова заклікана адлюстроўваць пачуцці і рэчаіснасць. І калі знікаюць з мовы пэўныя паняцці, чалавечыя пачуцці спустошваюцца. А такія змены ў мове прыводзяць да змен у характары народа. У выніку кніга становіцца недаступнай не толькі для чытача, але і для выдаўца. Таму вельмі важна, хто і што чытае, паколькі кніга не павінна страціць свайго значэння ў грамадстве.

**Юрый Казлоў, галоўны рэдактар часопіса «Роман-газета» (Расія):**

— Свята беларускага пісьменства спрыяе яднанню пісьменнікаў і чытачоў, павялічвае інтарэс грамадства да літаратуры. На жаль, сыходзіць у нябыт тая эпоха, калі ў рэдакцыі дасылалі папяровыя лісты, а літаратурны твор быў прадметам грамадскага абмеркавання. І тут нельга не сказаць пра лёс тоўстых літаратурных часопісаў, асабліва расійскіх: за савецкім часам гэта была сапраўдная лабараторыя грамадскай думкі, палігон ідэй, дзе адбывалася сутыкненне абсалютна розных тэндэнцый і меркаванняў. Так, часопіс «Новый мир» адстойваў ліберальныя ідэі, а часопіс «Молодая гвардия» прапаведаваў тыя, што абапіраліся на нацыянальныя традыцыі. Гэта якраз і быў жывы літаратурны працэс, якога нам цяпер нестае — прынамсі, у Расіі. А часопіс «Москва», які ўзначальвае выдатны паэт Вячаслаў Арцёмаў (дарэчы, беларус па нацыянальнасці) і канцэпцыя якога грунтуецца на нацыянальных літаратурных і культурных каштоўнасцях, знакаміты яшчэ і тым, што на яго старонках у 1966 годзе ўпершыню былі надрукаваны хрэстаматыйны сёння раман Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта». Што ж да «Роман-газеты», то мы імкнёмся, наколькі можам, падтрымліваць літаратурны працэс. У Расіі няма ніводнага вядомага пісьменніка, які б не друкаваўся ў «Роман-газеце». Будзем рады больш цеснаму творчаму супрацоўніцтву з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Гатовы друкаваць і сучасную беларускую прозу.

**Сяргей Кандыбовіч, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі:**

— Беларусы Расіі — людзі вельмі шчаслівыя, таму што ў Расіі да нас ставяцца з вялікай сімпатыяй. А што да сумесных беларуска-расійскіх праектаў — гэта і праца ў кірунку ваенна-патрыятычнага выхавання, і выдавецкія праекты, прымеркаваныя да 70-годдзя вызвалення Беларусі… «Круглы стол» — выдатная магчымасць абмяняцца ідэямі, у тым ліку наконт новых праектаў. Будзем імкнуцца рабіць усё для далейшага працвітання Беларусі.

**Валерый Казакоў, пісьменнік, сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі:**

— Беларусь сёння застаецца чыстай крыніцай, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы і ўсяго славянскага свету. Нездарма за апошні час тут не зачынілася ніводнай рэдакцыі тоўстага літаратурнага часопіса! Дзень беларускага пісьменства і міжнародны «круглы стол» — выдатны стымул для таго, каб у ўнісон працаваць на карысць будучыні беларускай і рускай нацыянальных літаратур.

**Святлана Ананьева, член Саюза пісьменнікаў Казахстана, загадчык аддзела аналітыкі і знешніх літаратурных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя Мухтара Аўэзава НАН Рэспублікі Казахстан, кандыдат філалагічных навук:**

— Тое, што сёння адбываецца ў беларускай эканоміцы, культуры, літаратуры, — вельмі добры досвед, які трэба распаўсюджваць як мага далей, глыбей і шырэй. Ідэі, што агучваюцца падчас «круглага стала», можна ўключаць у розныя кантэксты, пераплятаць між сабою.

**Сяргей Главюк, паэт, перакладчык, галоўны рэдактар альманаха «Литературное содружество. Из века в век» (Расія):**

— Сапраўдная паэзія адкрывае сэрцы і збліжае народы. Хацелася б працягнуць выпуск збораў беларускай паэзіі па-руску. Увогуле, мы стараемся наладжваць і падтрымліваць беларуска-расійскія літаратурныя стасункі, тым самым яднаючы два народы, і заўсёды прыязна ставімся да беларускіх калег.

**Слабадан Вуканавіч, паэт, перакладчык (Чарнагорыя):**

— У 1993 годзе ў Чарнагорыі выйшла «Анталогія сучаснай беларускай паэзіі». Тады я і пазнаёміўся з беларускай славеснай творчасцю. Цягам апошніх дваццаці гадоў усталёўваюцца творчыя стасункі паміж Беларуссю і Чарнагорыяй, і перш за ўсё гэта заслуга Дзён беларускага пісьменства. Да нашай агульнай справы спрычыніліся міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і беларускія творцы Алесь Карлюкевіч, Алесь Бадак, Мікола Мятліцкі, Іван Чарота, Іван Штэйнер, а таксама прадстаўнікі рэдакцый перыядычных выданняў.

**Яронімас Лауцюс, дзіцячы пісьменнік (Літва):**

— Кніга — не толькі крыніца інфармацыі. Гэта крыніца ісціны, ведаў і духоўнасці. Людзі прыходзяць і сыходзяць, а кніга застаецца, і верыцца, што застанецца назаўсёды. Лічу, што любое прадпрыемства павінна мець асобную кнігу пра сваіх сталых супрацоўнікаў, ветэранаў.

**Людміла Кебіч, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ:**

— Што датычыць ролі літаратуры пра вайну ў маральным выхаванні асобы, то, калі дзеці будуць ведаць пра жахі ліхалецця, яны ніколі не дапусцяць вайны. Калі пісаць пра вайну — абавязкова на матэрыялах успамінаў яе сведак, як, напрыклад, сябар СПБ Віктар Кудлачоў, у якога вайна адняла зрок. Акрамя таго, мы працуем і ў іншых кірунках: ладзім вечары духоўнай музыкі і паэзіі, адкрылі літаратурную кавярню, куды запрашаем аматараў кнігі. Людзі, якія любяць чытаць, асабліва паэзію, — гэта эліта нацыі.

**Уладзімір Карагін, старшыня прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва:**

— У сучасным інфармацыйным грамадстве праца пісьменніка надзвычай важная. Апісваючы мінулае і сучаснасць, мы пачынаем усведамляць сябе часткай грамадскага жыцця. Сённяшняя эканоміка павінна абапірацца на высокую духоўнасць і інфармаванасць.

**Яна ЯВІЧ**

# Навінкі кнігавыдання

***Невядомы Ракаў: могілкі пад базыльянскім крыжам / [укладальнік, аўтар прадмовы Вольга Сямашка]. — Мінск: Медысонт, 2014. — 200 с. — Індэкс пахаваных: с. 167–170. — 100 экз. — ISBN 978-985-7085-44-6.***

*Не так даўно старажытнае мястэчка Ракаў адсвяткавала сваё 550-годдзе. Таму, думаецца, няварта яшчэ раз падкрэсліваць, што гэтыя мясціны маюць багатую гісторыю, што тут адбывалася шмат важных падзей. Аўтар даследавання, некрапаліст Вольга Сямашка, вырашыла прасачыць гісторыю мясцін праз прызму… мясцовых могілак. У кнізе даследуюцца пахаванні на самых старых — праваслаўных (раней уніяцкіх) могілках Ракава, якія яшчэ ў 2005 годзе па ініцыятыве валанцёраў і пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь былі абаронены ад зносу. Цяпер жыхары мястэчка і іншых мясцін Беларусі маюць магчымасць адшукаць сваякоў, якія тут пахаваныя.*

### Гісторыя Беларусі

**В боях за Беларусь:** 1941–1945 годы: материалы республиканской студенческой научно-практической конференции, посвященной 70-летию освобождения Беларуси (Гомель, 20 мая 2014 г.) / [редколлегия: Г. А. Алексейченко (гл. ред.) и др.]. — Гомель : ГГУ, 2014. — 65 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-439-916-4.

**Войны XIV–XX вв. в судьбах белорусского народа:** сборник научных статей международной научно-теоретической конференции (Минск, 4 декабря 2014 г.) / [редколлегия: Божанов В. А. и др.]. — Минск: БГАТУ, 2014. — 326 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-727-1.

**Гістарычнае краязнаўства Беларусі:** [дапаможнік / І. І. Багдановіч і інш.; пад рэдакцыяй А. А. Корзюка]. — Гродна: ЮрСаПрінт, 2014. — 219 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-99335-8-5.

**Гісторыя:** метадычныя рэкамендацыі для арганізацыі самастойнай працы студэнтаў хіміка-тэхналагічных і інжынерна-тэхнічных спецыяльнасцяў БДТУ / Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт, Кафедра гісторыі Беларусі і паліталогіі; [складальнік А. А. Райчонак]. — Мінск: БДТУ, 2014. — 95 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-530-413-6.

**Знаменитые евреи — выходцы из Беларуси** = The famous Jews from Belarus / [перевод на английский язык: А. В. Волосач]. — Минск: Беларусь, 2014. — 28 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 100 экз.

**История Беларуси:** учебно-методическое пособие: [для курсантов / Киселев Александр Александрович и др.]; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2014. — 52 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-544-274-6.

**История Беларуси в контексте европейской цивилизации:** учебное пособие для студентов учреждений высшего образования / [С. А. Елизаров и др.]. — Минск: Вышэйшая школа, 2014. — 398 с. — 800 экз. — ISBN 978-985-06-2511-3 (в пер.).

**Лаўрысюк, А. В.** Мая памяць: пра вайну, пасляваенны час, пра людзей і сябе / Андрэй Лаўрысюк. — Іванава: Іванаўская раённая друкарня, 2014. — 255 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 70 экз. — ISBN 978-985-90285-3-3.

**Лозицкий, В. Л.** История Беларуси (окончание XVIII – начало XXI в.): системная подготовка к централизованному тестированию: в 3 ч.: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / В. Л. Лозицкий. — Мозырь: Белый Ветер, 2015–— ISBN 978-985-574-046-0.

Ч. 1. — 2015. — 141 с. — 1013 экз. — ISBN 978-985-574-045-3.

**Лозицкий, В. Л.** История Беларуси с древнейших времен до окончания XVIII в.: системная подготовка к централизованному тестированию: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования: в 2 ч. / В. Л. Лозицкий. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — ISBN 978-985-574-006-4.

Ч. 1. — 161 с. — 1213 экз. — ISBN 978-985-574-005-7.

Ч. 2. — 168 с. — 1013 экз. — ISBN 978-985-574-020-0.

**Могилевский поисковый вестник.** — Могилев, 2005– Вып. 9 / Общественное объединение «Могилевский областной историко-патриотический поисковый клуб «Виккру», Государственное учреждение дополнительного образования «Областной центр творчества» при поддержке Главного управления идеологической работы, культуры и по делам молодежи Могилевского облисполкома; [редактор-составитель Борисенко Николай Сергеевич; редколлегия: Беспанский С. И. и др.]. — АмелияПринт, 2014. — 178 с. — Часть текста на белорусском языке. — 160 экз. — ISBN 978-985-6891-36-9.

**Память:** историко-документальная хроника Березовского района / [редколлегия: В. В. Андриевич (главный редактор) и др.]. — 2-е изд., переработанное и дополненное. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 582 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-11-0830-1 (в пер.).

**Паноў, С. В.** Гісторыя Беларусі: білеты: 11-ты клас / С. В. Паноў. — Мінск: Аверсэв, 2015. — 144 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-19-1401-8.

**Предыстория белорусов с древнейших времен до XIII века** / составитель и редактор А. Е. Тарас. — Минск: Харвест, 2014. — 542 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-8481-2 (в пер.).

**Татаринов, Ю. А.** Ворута под Новогородком: возникновение древнего белорусского государства / Юрий Татаринов. — Минск: Смэлток, 2014. — 75 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6998-50-1.

**Твои герои, Беларусь! Герои Социалистического Труда:** биографический справочник / [под общей редакцией А. Н. Новикова; составители: И. Н. Кулан, В. И. Козак, Е. Е. Соколов]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 287 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-11-0822-6 (в пер.).

**Швец, А. А.** Воспоминания о прошлом / Анатолий Алексеевич Швец. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 83 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-02-8. — ISBN 978-985-7019-02-8 (ошибоч.).

### Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Велько, З. В.** Святая Мария Магдалина: [для детей] / Зоя Велько. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2015. — 47 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-754-5 (в пер.).

**Деревья и цветы:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3599-3.

**Ермакович, Д. И.** Хочу все знать: большая детская энциклопедия: [для среднего и старшего школьного возраста / Ермакович Дарья Ивановна]. — Минск: Харвест, 2015. — 318 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-16-9136-0 (в пер.).

**Животные:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3600-6.

**Земля:** для дошкольного возраста. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3601-3.

**Правила поведения:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3605-1.

**Человек:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3602-0.

**Экзотические обитатели Земли:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3603-7.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

#### Французская літаратура

**Эшноз, Ж.** 1914: раман / Жан Эшноз; пераклад з французскай [мовы Зміцера Коласа]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 98 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6992-53-0 (у пер.).

#### Руская літаратура

**Дадиани-Максоева, В.** Ливанские кедры / Виктория Дадиани-Максоева. — Минск: Букмастер, 2015. — 286 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-921-4 (в пер.).

**Иванов, Г.** Избранное: стихотворения / Геннадий Иванов. — Минск: Харвест, 2015. — 255 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-3589-4 (в пер.).

**Конопелькин, А. А.** Беспробудные бессонницы: поэзия и проза / Александр Конопелькин; [составитель Анна Ткаченко; иллюстрации: Александра Люцерна (Ткаченко)]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 419 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-85-7 (в пер.).

#### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Александрова, Л.** Стихи разных лет / Любовь Александрова. — Брест: Альтернатива, 2014. — 79 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-462-6.

**Арбузов, Н. О.** Я сердцем вижу мира красоту: стихи / Николай Арбузов. — Минск: Ковчег, 2014. — 62 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-98-6.

**Баннов, В. В.** На гребне времени волны: сборник поэзии / Василий Баннов. — Брест: Альтернатива, 2014. — 77 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-468-8.

**Богданова, Л.** Шесть звезд в ста километрах от дома: [роман] / Лина Богданова. — Минск: Беларусь, 2015. — 238 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-1116-6.

**Боровский, А. Н.** Юницкого небесные дороги: документальный роман / Анатоль Боровский. — Изд. 2-е, дополненное и переработанное. — Гомель: Полеспечать, 2014. — 559 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7012-50-3 (в пер.).

**Василевский, Н. А.** Свет оставляют немногие: повесть, драма, рассказы / Николай Василевский. — Минск: Литературный свет, 2014. — 163 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6943-29-7.

**Владлена Д.** Сизиф № 30-07: стихи / Владлена Д. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 183 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-84-0.

**Власов, В. Н.** Медведь: [роман] / Владимир Власов. — Минск: Харвест, 2014. — 445 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3625-9 (в пер.).

**Волков, С. А.** SMSки: стихи: 2006–2014 / Сергей Волков. — Минск: Альтиора – Живые Краски, 2014. — 80 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7073-58-0.

**Воронин, А. Н.** Инкассатор. Однажды преступив закон: [ставка на оружие: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 397 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3627-3 (в пер.).

Воронин, А. Н. Пророк: [ставка на веру: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 381 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3628-0 (в пер.).

**Гаевский, В. М.** Искусство – моя жизнь: Лирика. Избранное / Вячеслав Гаевский. — Минск: Ковчег, 2014. — 122 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-50-4 (в пер.).

**Голденков, М. А.** Пан Кмитич: [исторический роман] / Михаил Голденков; [послесловие: Валерия Ивлева]. — Минск: Энциклопедикс, 2015. — 794 с. — 300 экз. (1-й з-д 150). — ISBN 978-985-7090-27-3 (в пер.).

**Долгополов, М. Д.** Мои четыре Пегаса: стихотворения, басни, четверостишия / Михаил Долгополов. — Брест: Альтернатива, 2014. — 191 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-469-5.

**Дробышевская, В. С.** Чтоб у неба остаться в груди: лирика / Валентина Дробышевская. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 163 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-75-8 (в пер.).

**Дробышевский, Ч. Б.** Крылья орла: киноповесть / Чеслав Дробышевский. — Минс: А. Н. Вараксин, 2014. — 137 с. — 25 экз. — ISBN 978-985-7092-63-5 (в пер.).

**Забавский, В. А.** Дыхание леса / Владимир Забавский. — Минск: Ковчег, 2014. — 147 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-01-4.

**И физики, и лирики...:** стихотворения студентов, преподавателей, сотрудников и выпускников Брестского государственного технического университета. — Брест: Брестская типография, 2005–

Вып. 10 / составитель Т. М. Мхоян. — 2014. — 59 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-524-191-2.

**Карнаухова, И. А.** Цветочная феерия: [стихи] / Ирина Карнаухова, Марина Шаповалова. — Минск: Ковчег, 2014. — 49 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-08-3.

**Козюра, В. В.** Шаг в никуда: фантастический роман / Владимир Козюра; [художник Ольга Щеглова]. — Брест: Альтернатива, 2014. — 138 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-521-467-1.

**Лисецкая, Я. С.** Моя звезда: история в воспоминаниях: повесть / Яна Лисецкая. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 83 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-76-5.

**Луцкий, В. П.** Согбенные: роман в 2 кн. / Виктор Луцкий. — Минск: Кнігазбор, 2014–

Кн. 1. — 2014. — 379 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-11-0.

**Одельский, Я. Э.** Прогулка по Минску: [об улицах, домах и стройках, о стилях зодчества стихи] / Одельский Я. Э. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 145 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-48-2 (ошибоч.).

**Одельский, Я. Э.** Прогулка по Минску: [об улицах, домах и стройках, о стилях зодчества стихи] / Одельский Я. Э. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 145 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-14-3 (ошибоч.).

**«Полоцкая ветвь» – 2014:** (посвящается 20-летию организации): литературный альманах / [составитель — Олег Зайцев]. — Минск: Литературный свет, 2014. — 282 с. — 450 экз. — ISBN 978-985-6943-26-6 (в пер.).

**Престолов, В. Н.** Рекрут: [роман] / Владимир Престолов. — Минск: Харвест, 2014. — 414 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3626-6 (в пер.).

**Проба пера:** альманах / Гимназия № 1 г. Бреста; [составители: Е. Б. Красавина, А. И. Фирсова]. — Брест: Полиграфика, 2014. — 83 с. — Часть текста на английском языке. — 40 экз. — ISBN 978-985-6970-94-1.

**Прохоренко, А. С.** Водовороты любви / Александр Прохоренко. — Минск: Ковчег, 2014. — 141 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-99-3 (в пер.).

**Римский, Г. В.** Жизнь в четвертом измерении: поэма, стихи; Урод: драма / Геннадий Римский; [составители: Маргарита Римская, Николай Савик; послесловие: Савик Н.]. — Минск: БелСоЭС «Чернобыль», 2014. — 293 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6010-35-7.

**Рубин, М.** Каждому: 100 избранных стихотворений, 2004–2013 / Михаил Рубин. — Минск: Медисонт, 2014. — 127 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7085-46-0.

**Савинов, Б. Ф.** Зов Луны: сборник стихов / Борис Савинов. — Минск: Печенко А. Г., 2014. — 95 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-73-5.

**Сандомирский, Н. Б.** Ковбой, который не стрелял: ироничесские размышления, афоризмы и упражнения в стихосложении / Наум Сандомирский. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 598 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7092-73-4.

**Седельникова, Н. В.** Виртуальная акула: сборник песен / Наталья Седельникова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 53 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-61-1 (в пер.).

**Скок, В. А.** От умиленья до печали: стихи / Валентин Скок. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 37 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-79-6.

***Стальфэльт, П. Кніжка пра смерць / тэкст і малюнкі Пэрніла Стальфэльт; пераклад са шведскай [Казімера Сольца]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 26 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6992-49-3 (у пер.).***

*"Кніжка пра смерць" шведскай пісьменніцы Пэрнілы Стальфэльт — праект унікальны. Гэтае выданне распавядае дзецям пра адну з самых складаных рэчаў і падзей, пра тое, што такое смерць і чаму людзі паміраюць. У ліку відавочных пераваг выдання можна назваць мноства ілюстрацый, якія імітуюць дзіцячыя малюнкі, а таксама саму мову аповеду, простую, без нейкіх складаных, незразумелых для дзіцяці разваг і слоў. Варта падкрэсліць і моцны культуралагічны грунт тэксту, наяўнасць розных пунктаў гледжання і розных адказаў на адно і тое ж пытанне.*

**Топаллер, Н. Б.** НЛО: рассказы, стихи / Николай Топаллер. — Минск: Литературный свет, 2014. — 124 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6943-28-0.

**Трахименок, С. А.** Тунгусский болид: мистический роман / Сергей Трахименок. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 349 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1617-5 (в пер.).

**Устинович, О. В.** О чем думают кошки: произведения неизящной словесности / Олег Устинович; художник Лявон Бартлов. — Минск: Ковчег, 2014. — 255 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7121-06-9 (в пер.).

**Чащина, С. В.** Вечером будет Невский: стихи / Светлана Чащина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 71 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-81-9.

**Чергинец, Н. И.** Майор Ветров: [герои не рождаются: роман] / Николай Чергинец. — Минск: Харвест, 2014. — 479 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3585-6 (в пер.).

**Чергинец, Н. И.** Операция «Кровь» / Николай Чергинец. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 366 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-02-1638-0 (в пер.).

**Чергинец, Н. И.** Сыновья / Николай Чергинец. — Минск: Харвест, 2014. — 351 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3586-3 (в пер.).

**Шароваров, А. Ф.** Жизнь в жизни: стихи и публицистика / Анатолий Шароваров. — Минск: Ковчег, 2014. — 172 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-09-0 (в пер.).

**Юшкевич, С.** Одна судьба / Сергей Юшкевич. — Минск: Голиафы, 2014. — 71 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7021-63-5.

#### Беларуская літаратура

**Бацкель, А. І.** Маёнтак Рыбы: [кароткая проза] / Аляксандр І. Бацкель. — Мінск: Ковчег, 2014. — 175 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7086-79-5.

**Бензярук, Р. М.** Дуб і жалуды: раман, аповесць, апавяданні / Расціслаў Бензярук. — Брэст: Альтернатива, 2014. — 306 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-465-7.

**Вішнёў, З.** Спітыя баркасы: [вершы] / Зміцер Вішнёў. — Мінск: Каўчэг, 2014. — 82 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7086-87-0.

**Гумянюк, Ю.** Краіна нязддзейсненых мараў: [эсэ] / Юры Гумянюк. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 203 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-65-9.

**Дзея першая:** зборнік п'ес / ДУ «Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці», Народны клуб кампазітараў і паэтаў «Жывіца»; [складальнік Карнаухава Ірына Аляксандраўна]. — Мінск: Яцкевіч А. Г., 2014. — 131 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7117-02-4.

**Дуброўскі, А.** Незабыўнае: вершы / Алесь Дуброўскі. — Мазыр: Калор, 2014. — 113 с. — 290 экз. — ISBN 978-985-6830-61-0 (у пер.).

**Кадзетава, В. М.** Варыяцы на вечную тэму: апавяданні / Валянціна Кадзетава. — Мазыр: Калор, 2014. — 123 с. — 290 экз. — ISBN 978-985-6830-62-7 (у пер.).

**Кажэра, А. В.** Пад нябёснай аховай: вершы і апавяданні / Ала Кажэра. — Мінск: Ковчег, 2014. — 137 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-83-2.

**Карчашка, А. К.** Размова з зязюляй: зборнік паэзіі / Алесь Карчашка. — Мінск: Печанко А. Г., 2014. — 79 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-71-1.

**Коваль, В. У.** Вогненны вір: зборнік паэзіі / Вольга Коваль. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 107 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7119-12-7 (у пер.).

**Кудласевіч, А.** Трынаццаць дзён: (зборнік духоўнай прозы і паэзіі) / Анатоль Кудласевіч. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 315 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7021-57-4.

**Лабажэвіч, В. П.** Ад шчырага сэрца: зборнік паэзіі / Вольга Лабажэвіч. — Мінск: Печанко А. Г., 2014. — 256 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-72-8.

**Лазута, Л. П.** Імгненні...: проза, [паэзія] / Людміла Лазута; [уступны артыкул В. Корбута]. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 159 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-49-9 (у пер.).

**Мароз, С. В.** Будуць мары вясёлкай зіхцець: вершы / Соф'я Мароз. — Мінск: Ковчег, 2014. — 58 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-89-4.

**Міраноіч, М.** Жартачкі: гумар і сатыра: у 3 кн. / Міхась Міраноіч. — Мінск: Медысонт, 2013–

Кн. 2. — 2014. — 419 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7085-47-7.

**Несцяровіч, У. П.** Круты ўзлёт: аповесць / Уладзімір Несцяровіч. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 123 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7021-62-8.

**Рай, Я. І.** Сцежкі пілігрыма на скрыжаваннях часу: нататкі і паэзія / Ядвіга Рай. — Мінск: Печанко А. Г., 2014. — 167 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 50 экз. — ISBN 978-985-7053-74-2.

**Сліва, М.** ...І мора па калена: гумар і сатыра / Міхась Сліва. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2014. — 65 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7090-22-8.

**Цімафеева, Ю.** Кніга памылак: вершы і пераклады / Юля Цімафеева. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 113 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-66-6.

**Falcon. Nadzezhda Misyakova** / [photo by Anna Gert]. — 2015. — 18 с. — На англійскай мове. — Частка тэксту паралельна на англійскай і беларускай мовах. — Частка тэксту на беларускай мове. — 100 экз. Сокал. Надзея Місякова.

#### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Азбука в загадках:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2015. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-189-8.

**Андерсен, Х. К.** Дюймовочка: [для дошкольного возраста / Ханс Кристиан Андерсен; составление и пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 18 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0882-2.

**Баба сеяла горох:** [русские народные песенки-потешки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0876-1.

**Божья коровка:** [русские народные песенки-потешки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0877-8.

**Большая книга русских сказок:** [для младшего школьного возраста]. — Смоленск: Русич, 2015. — 304 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-8138-0837-1 (Русич). — ISBN 978-985-16-1984-5 (Харвест) (в пер.).

**Гауф, В.** Маленький Мук: [для дошкольного возраста / Вильгельм Гауф; составление и пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 18 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0883-9.

**Коза-дереза:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2015. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-191-1.

**Козья хатка:** текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-198-0.

**Кот, Козел да Баран:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-193-5.

**Котенька-коток:** [русские народные песенки-потешки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0878-5.

**Ладушки, ладушки:** [русские народные песенки-потешки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0879-2.

**Михайлов, М. Л.** Лесные хоромы: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / М. Л. Михайлов; [художник О. Л. Почицкая]. — Минск: Сказ, 2015. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-192-8.



***Падарунак на Каляды: зборнік святочнага апавядання / [укладальнік Ганна Янкута]. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 193 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-7119-15-8.***

*Каляды — загадкавы і таямнічы час, калі дзеці атрымліваюць падарункі ад святога Мікалая ці Санты Клауса, калі могуць адбывацца самыя неверагодныя, нават цудоўныя падзеі. Таму рыхтавацца да свята варта загадзя, яшчэ ўвосень. Выдатным падарункам «пад ялачку» стане кніга перакладаў знакамітых калядных гісторый на беларускую мову. Тут і творы Чарльза Дыкенса, і О.Генры, казкі Братоў Грым і Андэрсэна... Выданне стане добрай нагодай перачытаць любімыя аповеды, а таксама пазнаёміцца з новымі творамі. І так, гэтую кнігу не сорамна адкласці да больш зручнага часу — зімы і прадчування Каляд.*

**Перро, Ш. Золушка:** [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Перро Шарль; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2015. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-190-4.

**По щучьему веленью:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-197-3.

**Репка. Теремок:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3604-4.

**Снегурушка:** [русская народная сказка для дошкольного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 18 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0881-5.

**Теремок:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник М. Г. Лагунова]. — Минск: Сказ, 2015. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-195-9.

Унікальны праект

# Чорны замак… Крэўскі

Гэтыя муры бачылі смерці, крыжацкія аблогі, здрады і забойствы. Тут вырашаўся лёс дзяржавы і разбураліся сем'і, паміралі старыя князі і нараджаліся новыя… Здаецца, гэтыя словы пасуюць да лёсу кожнага са старажытных замкаў Вялікага Княства Літоўскага, з кожным з іх звязаныя таямнічыя падзеі мінулага і містычныя гісторыі сучаснасці. Аднак замак, пра які вядзе гаворку Анатоль Бутэвіч у сваёй новай кнізе, — адзін з самых старажытных і загадкавых на нашых землях. Так, у выданні «Таямніцы Крэўскага замка» аўтар прапануе чытачам падарожжа па нашай гісторыі разам з Вітаўтам Вялікім.

У XIV стагоддзі, калі на нашыя землі крыжакі нападалі больш як 100 разоў, у Еўропе існавала правіла: зямля не лічылася заваяванай, калі не захоплены замак. Замак жа трымаўся, пакуль у ім абаранялася хаця б адна вежа. Таму і будавалі фартэцыі як мага больш надзейнымі, сцены вежаў рабілі высокімі і тоўстымі, ставілі ў самых небяспечных месцах, каб адразу заўважыць і прадухіліць нападзенне ворагаў. Таму замкі зазвычай стаялі на высокіх пагорках, умацаваных сцяной і ровам. Аднак Крэўская фартэцыя — не на ўзвышшах, а ў нізіне паміж імі, дзе зліваюцца воды дзвюх рэчак. Даследчыкі не маюць адзінага меркавання, чаму князь Гедымін, які пачынаў будаваць замак, прыняў такое рашэнне. Адны мяркуюць, што рэкі давалі магчымасць мець у двары сажалку, адкуль можна было чэрпаць ваду падчас абароны фартэцыі. Другія лічаць, што і самі Крыўлянка і Шляхцянка (так называюцца рэчкі) служылі ў якасці натуральнай перашкоды на шляху ворага.

Адметна, што Крэўскі замак, пра які вядзе гаворку Анатоль Бутэвіч у сваёй новай кнізе, адносіцца да сям'і еўрапейскіх замкаў-кастэляў, што бярэ свой пачатак яшчэ ў Рымскай імперыі. Гэтыя старажытныя абарончыя збудаванні з цягам часу мадэрнізаваліся ў Заходняй Еўропе, ператвараліся з улікам новых дасягненняў ваеннага майстэрства. Але асаблівасць Крэўскага замка ў тым, што з часоў пабудовы ён амаль не змяняў свайго знешняга выгляду, чым надзвычай каштоўны для даследаванняў.

У розныя часы Крэўскі замак знаходзіўся ва ўладанні розных князёў. Так, першыя камяні ў яго фундамент заклаў Гедымін, а ў 1338 годзе перадаў Крэва свайму сыну Альгерду. Значыць, менавіта ён дабудоўваў і сам замак. Пазней, калі Альгерд стаў вялікім князем літоўскім, фартэцыя перайшла ў рукі яго сына Ягайлы. Але пасля таго, як Ягайла з'ехаў у Кракаў, лёс замка нам дакладна не вядомы. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ім кіраваў Ягайлаў брат Вігунт (загінуў у 1391 годзе), некаторыя сцвярджаюць, што замак заставаўся без гаспадара, і ўжо ў пачатку XVI стагоддзя яго моцна папсавалі крымскія татары, таму з цягам часу замак страціў свае абарончыя якасці.

Анатоль Бутэвіч звяртае ўвагу чытача і на той факт, што Крэўскі замак і ва ўзросце 600 гадоў быў карысны ў абароне нашых земляў: ён актыўна выкарыстоўваўся ў часы Першай сусветнай вайны.

Расповед аўтара не зводзіцца да сухіх фактаў, лічбаў, згадак імёнаў князёў і ваенных падзей, што адбываліся ля сцен Крэўскага замка ў розныя часы. Як і кожны пісьменнік, Анатоль Бутэвіч засяроджвае ўвагу на цікавых, нават містычных гісторыях, звязаных з гэтай мясцінай, распавядае пра страшныя рэчы, якія бачылі сцены старажытнай фартэцыі. Менавіта тут, у замкавай вежы, быў зняволены, а пасля і задушаны князь трокскі і жамойцкі, вялікі князь літоўскі Кейстут. Было гэта ў часы міжусобных войнаў за ўладу, калі Ягайла, пляменнік Кейстута, пакрыўджаны на тое, што сівабароды (менавіта так называлі старога князя Кейстута, якому было аж 85 гадоў) захапіў Вільню і стаў гаспадаром ВКЛ, адхіліўшы Ягайлу ад улады. У 1382 годзе Ягайла зноў адваяваў Вільню, але не змог дараваць дзядзьку. Ён захапіў яго разам з сынам Вітаўтам у палон у Княжаскую вежу Крэўскага замка. Пра тое, што адбылося пазней, гісторыкі ведаюць няшмат, але вядома, што 15 жніўня 1382 года Кейстут быў задушаны. А Вітаўту ўдалося выратавацца з палона толькі дзякуючы розуму і хітрасці жонкі Ганны Смаленскай. Справа ў тым, што наведваць будучага вялікага князя літоўскага ў вязніцу магла толькі яго жонка разам са служанкай Аленай. Так, Ганна ўгаварыла мужа пераапрануцца ў сукенку служанкі і ў такім выглядзе прайсці паўз замкавую варту. Думаецца, ахвяра служанкі Алены, якая і засталася ў вязніцы, не была марнай, бо ў асобе Вітаўта Вялікае Княства Літоўскае атрымала выдатнага кіраўніка і абаронцу.

Распавядае Анатоль Бутэвіч і больш міфічныя, «прывідныя» гісторыі, звязаныя з Крэўскім замкам. Адна з іх — легенда пра панну з сабачкам. Даўно-даўно жылі ў Крэве два маладыя панічы, і нейк яны закахаліся ў адну прыгожую паненку, якая часта шпацыравала ля замкавых сцен разам з маленькім сабачкам. Выйшлі яны на двубой, каб цаной жыцця іншага заваяваць права сватацца да прыгажуні. Той, які застаўся жывы, прапанаваў паненцы руку і сэрца, але яна аказалася ганарыстай і адмовіла кавалеру. Узлаваўся паніч і загадаў замураваць прыгажуню ў сцяну… разам з сабачкам. Шмат дзён і начэй мясцовыя чулі з замкавай сцяны роспачны голас жанчыны і брэх сабачкі. А праз некаторы час стаў з'яўляцца ля замка прывід панны з сабачкам. Яна была вельмі прыгожай, таму хлопцы не баяліся і выходзілі насустрач, паненка ўсміхалася, распасцірала рукі і клікала да сябе. І тады адбывалася страшнае, а ранкам чарговага смелага хлопца знаходзілі мёртвым…

*Анатоль Бутэвіч. Таямніцы Крэўскага замка: Падарожжа па нашай гісторыі з Вітаўтам Вялікім. — Мінск: Звязда, 2015. — 176 с.*

Гісторыя захоўвае шмат таямніц, а сцены Крэўскага замка, які быў сведкам многіх важных дзяржаўных падзей (у тым ліку заключэнне знакамітай Крэўскай уніі ў 1385 годзе), маглі б раскрыць многія з іх… Важна, што расповед Анатоля Бутэвіча не засяроджваецца адно на Крэве: аўтар распавядае, як Крэўскі замак звязаны з Тракайскім, Навагародскім, Лідскім, Віленскім, Медніцкім замкамі, прыводзіць цікавыя версіі існавання падземных ходаў паміж гэтымі фартэцыямі. Пісьменнік знаёміць чытача з кіраўнікамі Вялікага Княства Літоўскага, цікавымі гісторыямі, звязанымі з часамі іх княжання, распавядае пра шлюбы і лёс іх дзяцей. Думаецца, кніга «Таямніцы Крэўскага замка» будзе цікавая не толькі аматарам мінуўшчыны нашых земляў, але і стане праваднікам у глыбіню стагоддзяў для тых, хто толькі пачынае знаёмства з гісторыяй бацькаўшчыны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Рагачоў літаратурны

Рагачоўшчына — славуты літаратурны край, шчодры на пісьменніцкія таленты. Менавіта гэты горад пераняў эстафету ў Шчучына і ў наступным годзе будзе прымаць у сябе гасцей на Дзень беларускага пісьменства. Калі «зоркай» сёлетняга свята была Цётка, то рагачоўцы могуць пахваліцца цэлымі літаратурнымі сузор'ямі. Пачнём з самых буйных і вядомых.

У маёнтку Добасня былога Рагачоўскага павета нарадзіўся **Ядвігін Ш.** — заснавальнік беларускай нацыянальнай прозы, які аказаў вялікі ўплыў на сваіх сучаснікаў і паслядоўнікаў. Менавіта пад уплывам мудрага, інтэлігентнага, адукаванага Антона Іванавіча Лявіцкага (сапраўднае прозвішча пісьменніка) у значнай ступені змяніў свае погляды малады Янка Купала, які адчуў перспектывы творчай дзейнасці. Пра гэта распавядае паэт і краязнаўца Уладзімір Немізанскі ў вершы «Ядвігін Ш. Сяброўства».

Яркая старонка літаратурнага жыцця Рагачоўшчыны — народны пісьменнік **Міхась Лынькоў** і яго брат, паэт **Рыгор Суніца**. Змалку жыццё будучых літаратараў было неразрыўна звязана з цягнікамі: бацька працаваў на чыгунцы, а сям'я Лыньковых жыла ў чыгуначнай будцы на Старасельскім раз'ездзе, недалёка ад Рагачова. Неверагоднай красы краявіды ляглі ў аснову вершаў малодшага брата Рыгора, а вось дзяцінства

*Партрэт У. Караткевіча на сцяне дома ў Рагачове.*

Міхася — сюжэт яго самай вядомай аповесці «Міколка-паравоз», у галоўным герої якой няцяжка пазнаць самога аўтара.

Рагачоўцы вельмі ганарацца тым, што тут падоўгу жыў і пісаў свае выдатныя творы **Уладзімір Караткевіч**. У паэме «Зямля дзядоў» пісьменнік згадаў рагачоўскія «руіны замка каралевы Боны і над Дняпром шырокім курганы», «Збароў, дзе некалі мая матуля вясковаю настаўніцай была», капліцу «над бабчынай магілаю старой», дзядзьку-рыбака, дом «пад разгатаю таполяй», дзе «расце на змену самы меншы брат»...

*Будынак чыгуначнага вакзала ў Рагачове.*

З асаблівай павагай у Рагачове ставяцца да вядомага драматурга, народнага пісьменніка **Андрэя Макаёнка**. Пакой падарункаў — так называюць музей Андрэя Ягоравіча ў Журавіцкай сярэдняй школе Рагачоўскага раёна, дзе сабраны шматлікія экспанаты пра славутага земляка. Вось як Іван Шамякін пісаў пра любоў рагачоўцаў да Макаёнка: «Для іх Макаёнак — гэта не проста частка нашай літаратуры, а частка іх асабістага жыцця, частка біяграфій. У самым канкрэтным сэнсе слова. Калі да нас Макаёнак прыходзіць са слоў настаўнікаў, з кніжак, з галасоў артыстаў і дыктараў, то для іх — са сваёй зямлі. І некаторыя рысы героя Макаёнка, асабліва «ціхага, рахманага Цярэшкі», яны знаходзяць у сваіх земляках. Цярэшка для іх — гэта свой чалавек».

Яшчэ адзін слаўны сын рагачоўскай зямлі — майстар паэтычнага слова **Анатоль Вярцінскі**. Хоць нарадзіўся ён на Лепельшчыне, але прайшоў нямала журналісцкіх вёрст, будучы супрацоўнікам рагачоўскай раённай газеты, а з 1986 па 1990 гады быў галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва».

У Рагачове жыла, вучылася і працавала над сваімі творамі вядомая пісьменніца **Алена Васілевіч**. Пра родны горад яна напісала ў трылогіі «Пачакай, затрымайся» і ў «Аўтабіяграфіі»: «…гэты цудоўны зялёны гарадок па калена ў белым пяску на беразе Дняпра застаўся самым мілым і дарагім сэрцу ўспамінам…»

На літаратурнай карце рагачоўскай зямлі — дзясяткі імён паэтаў і празаікаў, якія пісалі ў розныя перыяды і якія пішуць гісторыю сучаснай беларускай літаратуры. Гэта Васіль Гарбацэвіч, Васіль Ткачоў, Фёдар Янкоўскі, Уладзімір Мехаў, Наста Кудасава, Валерый Гапееў і многія іншыя. У адным артыкуле пра ўсіх распавесці проста немагчыма. Відавочна адно: Рагачоў — выдатная пляцоўка для правядзення Дня беларускага пісьменства — 2016.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Куды ўцякаюць баравікі?

Вершы — універсальны спосаб навучыць дзяцей роднай мове. Дзякуючы рыфмам, новыя словы запамінаюцца хутчэй, развіваецца фантазія. Асабліва калі кожны слупок маленькага твора выразны, рытмічны, багаты на метафары, параўнанні, алегорыі. Як у кнізе вершаў-загадак «Паэтычныя забавы», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Пасля знаёмства з вершамі хтосьці з чытачоў вырасце знакамітым біёлагам, таленавітым пісьменнікам, мастаком ці ўлюбёным у прыроду падарожнікам. Вершы-загадкі Віктара Кажуры развіваюць уменне заўважаць і адчуваць з'явы навакольнага свету, праводзіць паміж імі паралелі, нават параўноваць і аналізаваць. Канечне, з улікам таго, што кніга адрасуецца маленькім.

«Паэтычныя забавы» — два невялічкія раздзелы. Першы прысвечаны порам года, другі — лясным жыхарам. Вельмі пасуюць тэксту ілюстрацыі Валерыі Цыганковай: крыху фантастычныя, працятыя ўсходнім каларытам, экзотыкай.

Як працаваць з загадкамі? У кожным вершыку «выпадае» (перавернута дагары нагамі) адно слова, якое дзіця павінна назваць. З аднаго боку, адгадаць лёгка — рыфма падказвае, з іншага — трэба ўсё ж такі падумаць! Мяркуйце самі: «Лезе ў двор цераз паркан / Белай воўнаю туман / А ў двары ўжо ставіць кросны / Гаспадыня-ткалля восень. / Нібы казачныя сны, / Яе цуда-дываны: / У іх і мятны водар лета, / І краса апошніх кветак». Туман, восень, дываны і кветкі — з'явы, якія трэба вызначыць з кантэксту.

Хто вые ўзімку на двары? Як маленькія сняжынкі ствараюць такія вялізныя гурбы снегу? Чаму ўвесну плачуць ледзяшы, а летам на полі расцвітаюць сонейкавы дзеткі? Пра гэта аўтар распавядае ў першым раздзеле кнігі.

Потым пачынаецца падарожжа ў лес да звяроў, птушак, грыбоў і ягад. Дарэчы, кніга маленькая. Яе лёгка браць з сабой на прагулкі — у заапарк, на ўзлесак ці проста ў двор. Чытаць, тлумачыць і паказваць тое, аб чым гаворыцца ў вершах, лепш адразу: бо дзіця не толькі ўяўляе, але і бачыць. Вось так міла, ненадакучліва, пацешна распавядае аўтар пра адну з любімых дзецьмі істот: «Дзіўны коціцца клубок, / У яго — калючы бок, / Ды няма, здаецца, ножак… / Хто такі? Канечне, вожык».

Пра якіх яшчэ звяроў можна даведацца з кнігі? Пра моцнага і злоснага дзіка, лася, які носіць карону з рагоў і мае даўгія цыбы-ногі і, канечне, воўка з ліскай. Птушак тут няшмат, але сярод іх тыя, якіх ведаюць з дзяцінства — сава, варона, зязюля. Ёсць таксама дапаможнік для грыбнікоў. Аўтар выкарыстоўвае прыём адушаўлення: сыраежкі ў іх носяць панамкі, баравікі ўцякаюць ад людзей і хаваюцца пад дрэвамі, а лісічкі, нібы «манеткі-невялічкі», высцілаюць мох. Пра ягады — асобны аповед. Нават дарослыя могуць не ведаць усіх назваў, а ў Віктара Кажуры ў паэтычным багажы — і суніцы, і ажыны, і маліны з брусніцамі. Добры, сонечны настрой з каштоўнымі ведамі!



# Закаханыя рэчкі з дзявочымі косамі

У што верылі нашы продкі? У загадкавых істот і незвычайныя здольнасці. Крыніца цікавых легенд і паданняў пра родны край для маленькіх — у кнізе Кацярыны Хадасевіч-Лісавой «Казкі сівой даўніны», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда».




Беларусь называюць краінай блакітных азёр. Мабыць, менавіта таму ўсе тры аповеды ў зборніку звязаныя з вадой. З часоў, пра якія распавядае пісьменніца, мінула не адно стагоддзе. Поўныя таямніц далёкія падзеі. Перад вачыма паўстаюць вёскі, палацы князёў, дрымучыя лясы ў розных кутках нашай зямлі. Дзеянне першага падання — амаль што «Вій» у беларускім увасабленні. Тут ёсць і прыгожая вядзьмарка, і смелы хлопец, але без пачвар і забойстваў. Кніжка прызначана для больш дарослай аўдыторыі, чым, напрыклад, вершы Віктара Кажуры. Бо ў ёй — і сум, і філасофія, і несправядлівасць жыцця, і складаныя, супрацьлеглыя характары. Гісторыя пра дзвюх сясцёр, Вадзісу і Бімару з Залесся, якіх разлучылі ў маленстве, і чароўную крынічку, што выратавала людзей, вельмі кранае, вучыць мудрасці і спачуванню. Як вытрымаць выпрабаванні лёсу і не паддацца роспачы? Чаму ахвяраваць сабой дзеля іншых — самы вялікі ў жыцці подзвіг?..

Другое паданне ў кнізе расказвае, як з'явіліся самыя прыгожыя азёры на беларускай зямлі. Ні ў адным падручніку па геаграфіі такога не знойдзеш! Чароўная і прыгожая легенда знаёміць чытачоў з князёўнай Анастасіяй, таленавітай скрыпачкай, разумнай, добрай і шчырай дзяўчынай. Але, як часта бывае, не абыходзіцца свет без зайздрасці. Заўсёды з'явіцца той, каму шчасце іншых будзе «калюць» вочы і атручваць душу. Так, Анастасію, якая вельмі падабалася людзям, не прыняла вядзьмарка Марыся, бо да яе ніхто не сватаўся — вельмі ж злосная была асоба. А тут яшчэ хлопец, якога яна прыкмеціла, у Анастасію закахаўся! Няцяжка здагадацца, што адбывалася далей — спробы звесці прыгажуню са свету, варожбы на вадзе, зёлкі ў вогнішчы, злыя замовы і праклёны… Канец, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, шчаслівы і справядлівы.

Замыкае карагод легенд «Вілія». Гэтую рамантычную гісторыю, якая кранае сэрца не менш, чым каханне Рамэа і Джульеты, распавёў паўднёвы ветрык, што аднойчы заблытаўся ў валасах пісьменніцы. Маляўніча, лірычна апісвае яна падзеі. Многія ведаюць рэчку Вілію, але не ўсе чулі пра тое, што калісьці так звалі адну дзяўчынку, якая ў маленстве засталася сіратой, цярпела здзекі сваёй цёткі і працавала за семярых. Беглі гады, і Вілія стала вельмі прывабнай паненкай. Сапраўдная беларусачка: глыбокія сінія вочы, цяжкія русыя косы, пяшчотны меладычны голас… Толькі жаніха ёй знайшлі… Тоўстага старога суседа! Вось так паздзекавалася з маладой роднай цётачка! А далей — мара пра ўцёкі з каханым хлопцам Дэстарнам, іржавы нож і начное вядзьмарства, таемныя спатканні... А зараз падумайце: чаму рака называецца імем той дзяўчыны? Сумная гісторыя, але легенды — не казкі. «Дзівілася раніцай вяскоўцы: праз зялёны луг бегла-віхляла сіняя рэчка. Вада ў ёй была чыстая, як сляза. А на беразе ракі ляжаў вялікі валун, які абрысам сваім нагадваў чалавека… Рака вакол валуна рабіла выгін, і здавалася, што яна абдымае камень. Той прыгожай рэчцы далі імя Вілія, а валун Дэстарнавым каменем называюць», — фінал кнігі і пачатак роздумаў. Ведаць свой край з маленства — абавязак кожнага!

# Свята дабрыні

Пісьменнік Уладзімір Сітуха прысвяціў свайму ўнуку цудоўную кнігу казак — «Пра арэхі, сома і бабра». З цікавасцю яе прачытаюць і іншыя дзеці. Выданне пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Класічныя добрыя гісторыі, сюжэт якіх падказала пісьменніку сама прырода. Кніга дапамагае паглядзець на свет глыбей, зазірнуць за вэлюм штодзённасці — раптам чараўніцтва і праўда існуе? У сне, напрыклад, мы вандруем па нязведаных кантынентах, лятаем і сустракаем казачных істот…




Дзед Мароз, аказваецца, не жыве сам па сабе ў далёкім і змрочным палацы. У яго ёсць сябры і памочнікі — Вецер і Завея. Жывуць вельмі дружна, прыходзяць адзін аднаму на дапамогу. Новы год, які для ўсіх дзяцей (ды і дарослых таксама) асацыюецца са святам і адпачынкам, для гэтай троіцы — час вялікіх клопатаў. Перш-наперш трэба абысці ўсіх лясных жыхароў і ўручыць ім падарункі, не абмінуць ніводнай хаткі, нікога не пакінуць без святочнага пачастунку. З птушкамі проста, бо ўсе яны жывуць гуртам, а вось звяры — паасобку. Нарэшце, калі ў мяху Дзеда Мароза застаюцца толькі арэхі, стары доўга ламае галаву, каму іх аддаць. Вось тут пісьменнік звяртаецца да дзяцей, пакідаючы адкрыты канец: каму прызначаны пачастунак? Няхай чытач сам думае, аналізуе.

З легенды пра рэчку Лясную пачынаецца другая казка — «Сом-выратавальнік». Не ведаеце пра гэтую рэчку? Выток бярэ з празрыстай крыніцы ў Белавежскай пушчы, але не гэта галоўнае. Рэчка — дом для самай рознай рыбы, яна корміць тутэйшы люд, бадзёрыць, абуджае ў стомленых сілу, радуе дзяцей... Але казачны аповед — пра жыхароў вадаёма. Таму чытач бярэ імправізаваны акваланг і выпраўляецца на самае дно, дзе малады спрытны шчупак палюе на гарэзлівых ментузоў. Мудры вялізны сом, ахвяруючы сабой, выратоўвае меншых летуценных сваякоў. І ў жывёл пануюць законы дабрыні, спачування, мужнасці і смеласці.

Трэці герой кнігі, бабёр-міратворац, таксама здзяйсняе свой подзвіг на беразе рэчкі Лясная. Уменнем аўтара казак назіраць за навакольным светам можна шчыра захапляцца! Колькі разоў, шпацыруючы па парку, мы, не заўважаючы, праходзім міма дрэў. А ў іх таксама свой лёс. І ў старой вярбы, якая з'явілася некалькі дзесяцігоддзяў таму з маленькага зярнятка. Бяда прыходзіць да гэтага дрэва нечакана, зрэшты, як і заўсёды ў жыцці. На рэчку, каля якой яна расла, вяртаюцца бабры. Чым жа яны небяспечныя? Гэтае пытанне таксама можна задаць дзіцяці, бо трэба ведаць, чым харчуюцца і як будуюць свае домікі пухнатыя звяркі з вострымі зубамі.

Казка, вядома, пра дабрыню, таму выратавальнік знаходзіцца. Што ж прыдумаў стары бабёр, каб падарыць дрэву другое жыццё, а заадно і выратаваць сінічак, якія гадавалі ў яго галінах птушанят? Лепш чытачу даведацца пра гэта з кнігі. І павучыцца вынаходлівасці! Дзеці ў пэўным узросце схільныя да пераймання, дык чаму б не паказваць ім добрыя прыклады?

Марыя ВОЙЦІК

# Для тых, хто застанецца…

**Пачынаючы з 2008 года Міжнародная канфедэрацыя тэатральных саюзаў у межах Міжнароднага тэатральнага фестывалю імя Антона Чэхава раз на два гады ладзіць Лабараторыю маладых рэжысёраў краін СНД, Балтыі і Грузіі. Сёлетнія імпрэзы і заняткі Лабараторыі чацвёрты раз наведаў рэжысёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Аляксандр Марчанка, які падзяліўся сваімі ўражаннямі:**



— Дырэктар фестывалю Валерый Шадрын не раз нагадваў, што тэатральнае мастацтва не існуе па-за пакаленнямі, настойваў на аднаўленні і падтрымцы творчых сувязяў, якія вяліся з часоў Савецкага Саюза, бо моладзь часта нават не ведае адно аднаго. Дарэчы, пад эгідай Міжнароднай канфедэрацыі зладзілі Першы маладзёжны тэатр-форум у Кішынёве, а Другі сёлетнім лістападам плануецца ў Мінску. Гэтыя сустрэчы адбываюцца перадусім для таго, каб злучыць людзей, перадаць каштоўны досвед майстроў рускай тэатральнай школы і пазнаёміць з міжнароднымі мастацкімі працэсамі. Спектаклі лабараторыі, якая доўжыцца больш як два месяцы, у асноўным еўрапейскія, з невялікім дамешкам маскоўскіх. Структурна гэта выглядае вельмі шчыльна, штодня па чатыры гадзіны майстар-класаў і адзін спектакль. Што яны даюць?

Апошія два разы абвяшчалі вельмі раскідзістую тэму «Тэатр ХХІ стагоддзя. Досвед мінулага. Пошукі новага». Калі тэмы былі больш пэўныя, кшталту работы рэжысёра і мастака альбо мастака і кампазітара, практычных ведаў яны давалі больш. Напрыклад, расійскі тэатральны рэжысёр Кама Гінкас (а ён вёў заняткі цягам трох дзён) прынёс відэазапісы сваіх спектакляў і на пэўных фрагментах тлумачыў, якія ставіліся задачы, як вырашаліся і ўвасабляліся ў пастаноўцы. Натуральна, да іх дадаваўся іншы матэрыял: як рабіць, як давесці сутнасць, як увесці ў падзейны шэраг, як гэта працуе на звышзадачу. Кама Міронавіч — мой кумір: ён прыходзіць на заняткі абсалютна падрыхтаваным да гутаркі рэжысёрска-пастановачнага кшталту, і мы атрымліваем прафесійныя веды ад майстра, а не агульныя разважанні пра тэатр.

Выкладчыкі — людзі імпэтныя і жвавыя, нягледзячы на салідны ўзрост, назіраюць пільна і бачаць далёка. На гэты раз мы цікавіліся ў савецкага рэжысёра Адольфа Шапіры, як прынцыпова мяняецца чалавек тэатра цягам некалькіх дзесяцігоддзяў. На думку майстра, галоўнае, што тэатр паранейшаму «робяць» апантаныя людзі. Яны карыстаюцца іншымі методыкамі, але перадусім крочаць шляхам дзеяння, вострa ўсведамляюць сучаснасць і адгукаюцца на яе. Верагодна, гэты шлях можа не падабацца і не вітацца старэйшым пакаленнем, але гэта аб'ектыўны тэатральны працэс.

Самае важкае перакананне, якое я вынес з гэтых чатырох сустрэч: тэатр можа абіраць любыя формы. Форма — гэта таксама свабода выказвання, якую складана дасягнуць самому, не азіраючыся на аўтарытэты і меркаванні, як з боку калег, так і з боку гледачоў. Мы вельмі залежныя ад ацэнкі... Адчуванне свабоды, якое ўзнікае пасля заняткаў з майстрамі, — А. Шапірам, К. Гінкасам, У. Панковым — самы каштоўны набытак з лабараторных сустрэч.

Іншыя набыткі і адчуванні — ужо ад праглядаў. Паглядзеў, нарэшце, спектаклі Канстанціна Багамолава — «Ідэальны муж» і «Браты Карамазавы»... У любога чалавека пасля прагляду «Братоў Карамазавых» жаданне падумаць пра Бога ўзнікне натуральна і проста, не трэба будзе яго заклікаць да царквы. Але гэта адбудзецца толькі пасля таго, як ён асвойтаецца з сістэмай каардынат спектакля, пазнае на сцэне звыклыя сітуацыі сучаснага жыцця, штампы паводзін, складзе ўражанні ў адзін спектакль... Парадаксальна, але на дванаццатай хвіліне падымаюцца першыя гледачы, імкнуць да выхаду, за імі на дваццатай — яшчэ некаторая колькасць... Што не так для гэтых уцекачоў? Папросту бавіць час з Ф. Дастаеўскім не атрымаецца. Яны адмаўляюць тое, што ў тэатры думаюць? Затое цешаць тыя, хто застаецца...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# Выпрабаванне часам

Выстаўка «Impression» («Уражанне») з калекцыі вядомага беларускага збіральніка Мікалая Дудко адкрылася ў Музеі Беларускага Палесся. Экспазіцыя прысвечана памяці слаўных дзеячаў мастацтва Піншчыны — акадэміку архітэктуры, вядомаму калекцыянеру Івану Жалтоўскаму (1867 — 1959) і арганізатару галерэі рускага жывапісу ХІХ стагоддзя ў горадзе Пінску Уладзіміру Баравікову (1912 — 2001).

Сваю калекцыю Мікалай Васільевіч пачаў збіраць з сярэдзіны 1990-х гадоў, і сёння яна налічвае некалькі соцень твораў жывапісу пераважна беларускіх мастакоў, сярод якіх М. Дучыц, І. Рэй, М. Даўгала, В. Кубараў, В. Гоманаў, А. Семілетаў, Г. Ціхановіч, С. Каткоў і іншыя. З сучасных мастакоў прадстаўлены творы Н. Голышавай, Е. Лось, А. Кокцева...

Уражваюць карціны, напісаныя ў рэалістычнай, сюррэалістычнай, імпрэсіяніскай манерах. Гэта творы Аскара Марыкса, які скончыў Акадэмію мастацтваў у Празе (1912), а з 1920 года жыў і працаваў у Беларусі. Адзін з заснавальнікаў дэкарацыйнага мастацтва ў беларускім савецкім тэатры. Яго творчасць вызначалася рэалістычнай выразнасцю, глыбокім веданнем эпохі, адметнай стылістыкай. Напісаў шэраг пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў вядомых дзеячаў Беларусі.

Ураджэнец Гродна Мікалай Дучыц вучыўся ў пецярбургскай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў, напісаў серыю беларускіх пейзажаў у рэалістычнай манеры. Ібрагім Гембіцкі (татарын па паходжанні) нарадзіўся ў Мінску, скончыў Маскоўскі інстытут выяўленчага мастацтва, вучыўся ў У. Фаворскага, А. Ганчарова. Яго каляровыя літаграфіі вызначаюцца ўраўнаважанасцю кампазіцыі, танальным багаццем гравіроўкі, значнасцю тэматыкі.

Падчас адкрыцця выстаўкі старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца заклікаў не забываць набыткі беларускай мастацкай школы. Гэтага прынцыпу прытрымліваўся ў сваёй творчасці заслужаны дзеяч мастацтваў Іван Рэй. Ён скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, пасля там жа выкладаў на кафедры жывапісу. Па ўсёй Беларусі ездзіў на пленэры разам з Віталём Цвіркам і Сямёнам Дмухайлам, яны вучыліся ў народнага мастака і спаборнічалі паміж сабой.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічаў і адзін з яскравых прадстаўнікоў сённяшняй беларускай мастацкай школы, прадаўжальнік традыцый беларускай рэалістычнай школы, заслужаны дзеяч мастацтваў Уладзімір Уродніч. Творца з гонарам падкрэслівае, што ён выхаванец савецкай прафесійнай школы, якая выхоўвалася на мастацтве «суровага стылю». Яго калекцыю складаюць больш як 60 краявідаў, напісаных у розных рэгіёнах Беларусі, аднак найбольш пільна мастак угледаецца ў роднае Палессе.

Зусім іншае філасофскае пераасэнсаванне можна заўважыць у палатне Уладзіміра Ткачова «Тайная вячэра». І хоць творца скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, вучыўся ў Мая Данцыга і працуе ў рэалістычнай манеры, але біблейскую тэматыку ён пераасэнсоўвае па-свойму, таму і карціна на выстаўцы неардынарная, са сваім успрыманнем свету.

Калекцыі часта становяцца базай для стварэння музеяў, мастацкіх галерэй. Будзем спадзявацца, што і гэты збор твораў у хуткім часе знойдзе месца для сталай экспазіцыі.

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Палёты ў сне



*«Летуценніца. Мора».*

Таіцянскія прыгажуні Поля Гагена перамяшчаюцца ў прасторы. Казачных дзяўчат з сакавітых экзатычных краявідаў можна ўбачыць на палотнах сучаснага беларускага мастака Дзмітрыя Сурыновіча, чыя выстаўка адкрылася 3 верасня ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Сваю экспазіцыю жывапісец, графік, акварэліст, мастак-пастаноўшчык анімацыйнага кіно назваў «Метафара ў вобразах». Прадстаўлена больш за сорак работ, выкананых акрылам на працягу 10 гадоў, а таксама новая серыя акварэляў.

Стыль у Дзмітрыя Сурыновіча нагадвае Гагена толькі атмасферай, але не почыркам. Вобразы, увасобленыя на карцінах беларускага майстра, — далікатныя, кранальныя, летуценныя. Сімволіка палотнаў набліжаецца хутчэй да чараўніцтва, чым да рэальнасці. У творах мастака адчуваецца літаратурны дух, адсыль і метафары. Карціна «Як птушкі» з выявай паненак, што лунаюць у паветры, — бязмежны подых фантазіі, лёгкасць і бязважкасць сну. Праца «Аліса ў маках», у сваю чаргу, адсылае да Льюіса Кэрала.

«Галоўнае, што варта мець мастаку ў душы, — прагу да жыцця», — прызнаўся Дзмітрый Сурыновіч. І дадаў, падзяліўшыся аўтарскімі знаходкамі: «Калі я адчуваю, што пачынаю паўтарацца, станаўлюся банальным, пераглядаю сюррэалістычныя працы — гэта вядзе ў патрэбным кірунку, асвяжае думкі, натхняе. Яшчэ я зразумеў: вучыцца ні ў каго не сорамна і ніколі не позна».

Мастак любіць адлюстроўваць на палотнах жанчын. Мы бачым летуценніцу, што сядзіць на беразе мора, задумліва гледзячы за далягляд, жамчужніцу, якая здабывае каштоўны камень, Сафо разам з містычным на выгляд катом, доўгавалосую лэдзі Гадзіву на велічным белым кані. Асобнай гаворкі вартыя акварэлі мастака: матывы ў іх пераплятаюцца з усходняй каліграфіяй, вабіць цякучасць форм, анімацыйныя фрагменты. Дырэктар гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе» Мікалай Паграноўскі, які прысутнічаў на адкрыцці выстаўкі, звярнуў увагу на шматпланавасць і свабоду творчага выяўлення Дзмітрыя Сурыновіча.

Мастак жыве і працуе ў Мінску з 1979 года. Скончыў аддзяленне "Інтэр'ер" Беларускай акадэміі мастацтваў у 1980 (майстэрня прафесара С. Баткоўскага). Карціны знаходзяцца ў італьянскіх, нямецкіх, французскіх, польскіх, амерыканскіх, японскіх калекцыях. Асобныя работы можна знайсці ў аматараў мастацтва з Фінляндыі, Украіны, Польшчы, Іспаніі, Ізраіля. У творчай біяграфіі Дзмітрыя Сурыновіча пачэснае месца займае анімацыя. Ён з'яўляецца таленавітым мастаком-пастаноўшчыкам дзясятка фільмаў («Чароўная жалейка», «Легенда пра лэдзі Гадзіву», «Сяргей Пракоф'еў»), а пра кіно можа гаварыць гадзінамі, успамінаючы плённы час працы на студыі «Беларусьфільм».

Выстаўка арганізавана Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі сумесна з галерэяй графікі «Кніжны салон», кіраўнік якога Ала Зміёва — куратар экспазіцыі. На мерапрыемстве прысутнічалі вядомыя мастацтвазнаўцы, скульптары, дызайнеры і мастакі.

**Марыя ВОЙЦІК**



# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Шлях да фальклору

Музей народнай архітэктуры і побыту, што знаходзіцца ў вёсцы Азярцо непадалёк ад сталіцы, сёмы раз прыняў міжнародны фолк-фестываль «Камяніца». У ліку адметнасцей фэсту — не толькі шырокая канцэртная і забаўляльная праграма, але і фундатарскі пачатак. Так, усе сродкі, атрыманыя ад правядзення «Камяніцы», традыцыйна скіроўваюцца на добраўпарадкаванне, рамонт і падтрыманне ў належным стане ўнікальных будынкаў музея.

Ад гэтай традыцыі арганізатары вырашылі не адыходзіць і сёлета. Таму квіткі сталі крыху даражэйшымі, чым каштуе ўваход на тэрыторыю музея. Як распавёў дырэктар установы Эдуард Багдановіч, летась падчас «Камяніцы» было сабрана каля 180 мільёнаў рублёў. Менавіта з дапамогай фэсту музей змог адрамантаваць вельмі цікавы гістарычны аб'ект — кузню. Разам з тым фестываль дапамагае выконваць і асноўную місію музея — зберагаць і захоўваць спадчыну беларускага народа. Эдуард Антонавіч адзначыў:

— «Камяніца» спрыяе ўзаемаабмену паміж народамі і культурамі, дае нам магчымасць паказаць сваю адметнасць.

І сапраўды, фэст, што сёлета адбыўся пры падтрымцы банка «БелВЭБ», прапанаваўшы публіцы шырокую праграму выступленняў калектываў розных кірункаў фолк-музыкі (канцэрты праходзілі без паўз на дзвюх сцэнах), мноства забаў, сабраў шмат гасцей не толькі з Беларусі, але і іншых краін. Ды і склад удзельнікаў таксама быў для многіх сюрпрызам. Так, да традыцыйных выступоўцаў «Камяніцы» і іншых айчынных фэстаў — гуртоў «Стары Ольса», *Znich*, *Vuraj*, «Ягорава гара», Altanka далучыліся дзіцячыя калектывы «Мілавіца» і «*ФолкRaдa*», а ўпершыню ў Беларусі выступілі «Дрымба да Дзига» з Украіны, Trad Attack! з Эстоніі і *Dzikie Jablka* з Польшчы.

Шкада, што на малой сцэне гук быў намнога горш адладжаны, чым на вялікай. Але гурты па ўзроўні ніколькі не саступалі выканаўцам з вялікай сцэны. Так, свае праграмы тут прадставілі студэнцкія гурты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў «Этнасуполка» і «Страла», а таксама калектывы «Горынь», «Мярэжа», «Варган». Асобна варта адзначыць выступленні гурта «Жвавы карчмар», у склад якога ўваходзяць супрацоўнікі Музея народнай архітэктуры і побыту. Менавіта гэтыя музыкі сустракалі гасцей на сцэне каля царквы, на тэрыторыі этнаграфічнага рэгіёна «Цэнтральная Беларусь», па дарозе на асноўную фестывальную пляцоўку. Хлопцы спявалі песні, ладзілі майстар-класы па беларускіх танцах і гульнях, нават забаўлялі гасцей вяселля, што святкавалася ў дзень фестывалю на тэрыторыі музея.



Гасцей «Камяніцы» вітае гурт «Жвавы карчмар».

У ліку адметных момантаў праграмы «Камяніцы-2015» можна назваць і монаспектакль з элементамі батлеечнай пастаноўкі «Споведзь пад стрэхамі» ад вядомага музыкі, фальклырыста, лідара гурта «Троіца» Івана Кірчука. Спектакль праходзіў у камернай атмасферы старажытнай царквы і паўтараўся падчас фэсту тройчы (і гэта правільнае рашэнне арганізатараў, бо ахвочых пабачыць незвычайнае дзейства было сапраўды шмат). Сам артыст у якасці асноўнай аўдыторыі прадстаўлення абраў дзетак, аднак спектакль быў цікавы хутчэй іх бацькам. Адметна, што батлейку Івана Кірчука, якая з 1999 года захоўвалася ў Галандыі, беларусы пабачылі ўпершыню.

Ва ўступным слове перад спектаклем Іван Іванавіч распавёў:

— Беларускі фальклор здзіўляе глыбінёй, філасофіяй, мудрасцю продкаў, што перадавалася з пакалення ў пакаленне. «Споведзь пад стрэхамі» — гэта жальба тых маўклівых хат, што стаяць на тэрыторыі музея. У мяне ёсць праграма «Спадчына загінуўшых вёсак», і сёння я выканаю частку песень, найгрышаў з гэтай праграмы.

Вясна, лета, восень, зіма, тыя песні, што гучалі ў старадаўніх вёсках падчас гукання вясны, вітання сонца, жніва, вяселля, у пост, батлеечнае прадстаўленне на Каляды ў спектаклі Івана Кірчука спалучыліся ў адно вялікае дзейства. Яшчэ больш уражлівым яго зрабілі гукі старажытных беларускіх інструментаў («ролю» званоў тут выконвалі нават чыгункі), маскі, а таксама расповеды самога артыста пра адметнасці пэўных традыцыйных і рытуальных дзеянняў, што цягам года выконвалі нашы продкі.



Вясёлыя танцы ад гурта «Этнасуполка».

Фолк-фэст «Камяніца» адметны тым, што яго арганізатары прыслухоўваюцца да пажаданняў гасцей. Так, сёлета былі палепшаныя ўмовы праезду да тэрыторыі музея, а таксама лепш наладжанае харчаванне наведвальнікаў, а забаўляльная праграма ўключала шмат дадатковых цікавостак у выглядзе бойкі на пластыкавых мячах, стрэлаў з лука ды інш. Думаецца, што і надалей фэст будзе радаваць выступленнямі новых гуртоў — сапраўдных зорак еўрапейскай фолксцэны, вясёлымі танцамі і забавамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Залатое дзіва

**VII абласное свята-конкурс майстроў саломапляцення «Саламяныя дзівосы» адбылося ў Чэрвені. На фэст з'ехаліся людзі розных узростаў з 13 раёнаў Мінскай вобласці, сярод удзельнікаў — два народныя майстры Беларусі.**

Сваю гісторыю, як зазначыла дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Раіса Вайцяхоўская, свята вядзе з 1997 года. Першы раз урачыстасці прайшлі ў Мар'інай Горцы, далей майстроў гасцінна прымалі Уздзенскі, Валожынскі, Маладзечанскі, Дзяржынскі і Нясвіжскі раёны. Супрацоўнікі цэнтра распрацавалі абласную праграму «Традыцыйная культура Мінскай вобласці. Захаванне і пераемнасць. Работа ўстаноў культуры з дзецьмі і падлеткамі на 2016 — 2020 гг.», таму сярод 108 удзельнікаў сёлетняга свята-конкурсу больш як палову склалі юныя майстры.

Гэтую ж акалічнасць адзначыў і старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута, які ўпэўнены: моладзь з задавальненнем спасцігае вопыт настаўнікаў, дадае штосьці новае ў звыклыя рэчы.

Свята складалася з дзвюх частак: конкурсу-выстаўкі гатовых работ і конкурсу на хуткасць і якасць пляцення вырабу. Кожны з удзельнікаў стварыў выраб па адной з 15 намінацый: фігурку птушкі, лялькі, павука рамбічнай канструкцыі, аплікацыю саломай па дрэве ці тканіне, саламянае пудзіла...



Уладзімір Ціханоўскі.

Майстар-клас па вырабе саламянага каня правяла народны майстар Беларусі, член праўлення Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Ала Аўсяннікава. Дзеці, якія яшчэ не працавалі з саломай, пад пільным вокам майстра за паўгадзіны адчулі і пластычнасць гэтага матэрыялу, і яго декаратыўныя якасці. Верагодна, што хтосьці з іх палюбіць мастацтва саломапляцення назаўжды.

Нельга было не прыпыніцца каля капелюшоў народнага майстра Беларусі Уладзіміра Ціханоўскага з Любанскага раёна, які працуе ў Атрадненскім сельскім Доме культуры, дзе вядзе гуртoк саломапляцення і кіруе сямейным ансамблем «Карані». Рамяству навучыўся ад бабулі яшчэ ў дзяцінстве, закончыў Магілёўскае вучылішча мастацтваў і ўжо больш за паўстагоддзя займаецца любімай справай. Можа прапанаваць капялюш на любы густ: сялянскі — брыль, гарадскі, шляхецкі.

Загадчык аддзела народнай творчасці Мінскага абласнога цэнтра Віталь Каспяровіч зазначыў, што з кожным годам да суполкі майстроў саломапляцення далучаецца ўсё больш пенсіянераў, якія з задавальненнем спасцігаюць новую для сябе справу, шукаюць уласны стыль.



Людміла Царыкевіч з Марынай і Даніілам Жабенкамі.

Конкурсныя работы ацэньвала кампетэнтнае журы на чале з Яўгенам Сахутам. Больш за ўсё прызавых месцаў дасталася прадстаўнікам Салігорскага раёна, у тым ліку самая галоўная ўзнагарода — Гран-пры, якая прысуджана педагогу дадатковага навучання Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Людміле Царыкевіч. Яна прыехала на свята разам з выхаванцамі ўзорнай студыі «Чароўная саломка», сястрой і братам Марынай і Даніілам Жабенкамі, якія выхоўваюцца ў шматдзетнай сям'і.

Сярод перамог салігорцаў — першае месца ў намінацыі «Лепшая аплікацыя саломкай па тканіне», якое занялі Ірына Валатовіч і яе дачка Марыя (на суд журы яны прадставілі адмысловы «Каляндар»). Гэты дуэт таксама быў адзначаны журы як «Лепшы сямейны калектыў». Мне ж запомніліся работы Марыны Рымашэўскай. Вырабы дзяўчынкі — цудоўна аздобленыя абярэгі — былі ўганараваны першым месцам у намінацыі «Хатняя калекцыя».

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

*Украінскія літаратурныя адрасы ў Беларусі*

# Сляды Андрыяна Іванчука



**У кнізе «Літаратурная Берасцейшчына» (аўтары — В. Ляшук, Г. Снітко), выдадзенай у Мінску ў 2008 г., ёсць асобны раздзел — «Украінамоўныя пісьменнікі». «На тэрыторыі Берасцейшчыны ў гэты перыяд (размова — пра 1920 — 1941 гг. — А. К.) частка мастакоў слова па розных прычынах пісалі на ўкраінскай мове. Як украінскі паэт, пясняр Палесся і рэвалюцыі сцвердзіў сябе Дзмітрый Фалькоўскі…» Далей згадваюцца яшчэ Аляксандр Гаўрылюк, Уладзімір Кітаеўскі.**

Асобна вылучаны аповед пра Бяроза-Картузскі лагер (на тэрыторыі сучаснага Бярозаўскага раёна). Перажытае ў гэтым польскім канцлагеры стала асновай для стварэння А. Гаўрылюком паэмы «Песня з Бярозы» і дакументальнай аповесці «Бяроза». Чытаем у «Літаратурнай Берасцейшчыне»: «Паэма «Песня з Бярозы» стала першым у літаратуры мастацкім дакументам, які засведчыў, што такое канцлагер. Умовы ў ім былі вельмі суровыя. Забаранялася нават карыстацца алоўкам і паперай. Таму паэма Гаўрылюка была складзена спачатку ў вуснай форме, а на паперы з'явілася толькі ў 1941 г., дзякуючы аднаму з вязняў гэтага канцлагера, які пасля вызвалення запісаў яе разам з аўтарам». І далей: «Герой паэмы — зняволены рэвалюцыянер, які гатовы памерці за свабоду і шчасце свайго народа, прычым памерці горда. Узніцца над страхам смерці яму дапамагае духоўная сувязь з сябрамі і блізкімі, любоў да чалавецтва. І гэтай ідэі падпарадкавана і будова паэмы…»

А вось імя другога ўкраінскага паэта, які звязаны з Берасцейшчынай праз польскі канцлагер, у «Літаратурнай Берасцейшчыне» не згадваецца. Размова — пра пісьменніка Андрыяна Іванчука (1903 — 1951), які нарадзіўся ў мястэчку Струсаў на Цярнопальшчыне.

Першы раз у Бярозу-Картузскую польская паліцыя пасадзіла паэта ў 1933-м — на 6 месяцаў. Пасля вызвалення жыў у Львове. Наступны раз кінулі за краты ў 1937 г. Сядзеў Андрыян разам з Аляксандрам Гаўрылюком. І абодва былі вызвалены з лагера Чырвонай Арміяй у верасні 1939-га.

Што ж да жыццёвай і творчай біяграфіі А. Іванчука, то пачатковую школу ён закончыў у родным мястэчку Струсаве. Старажытнае паселішча ўпершыню згадваецца ў дакументальных крыніцах XV ст.

З пачаткам Першай сусветнай вайны яго сям'я трапляе ў эвакуацыю ў Аўстрыю. У Вене Андрыян вучыўся ў гімназіі, але не закончыў яе. Навучанне прадоўжыў у 1918 г. у Цярнопальскай украінскай гімназіі, якую скончыў у 1924-м. Праз год паступіў на філасофскі факультэт Львоўскага ўніверсітэта. Там Іванчук зблізіўся з прагрэсіўнымі львоўскімі пісьменнікамі. Пачынаючы з 1926 г. Андрыян друкуецца ў «Світлі», «Нових шляхах», «Вікнах» і іншых выданнях.

Хто быў побач з ім, якое асяроддзе фарміравала талент, грамадзянскі светапогляд маладога паэта? Чытаем ва «Украінскай літаратурнай энцыклапедыі» (Кіеў, 1988 год, том І, старонка 320): «Вікна» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі штомесячны часопіс. Выдаваўся ЦК КПЗУ з лістапада 1927 па верасень 1932 у Львове (з мая 1929 — орган літаратурнай арганізацыі пралетарскіх пісьменнікаў Заходняй Украіны «Горно»). Першым рэдактарам і выдаўцом (да чэрвеня 1930) быў В. Бабінскі, пасля С. Тудар. Часопіс стаў цэнтрам прагрэсіўных культурных сіл Заходняй Украіны, трыбунай перадавой грамадскай і літаратурнай думкі…» У «Вікнах» са сваімі творамі друкаваліся В. Бабінскі, М. Тарноўскі, А. Іванчук, С. Масляк, Ніна Матуліўна, П. Казланюк, Я. Гоман, Міраслава Сапілка і іншыя. У іх творах прапагандаваліся рэвалюцыйныя ідэі, тэма кансалідацыі прагрэсіўных сіл у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне заходнеўкраінскіх зямель у адзіную Украіну. Рэдакцыя падтрымлівала сувязі з выдавецтвамі і пісьменнікамі Савецкай Украіны, прагрэсіўнымі выданнямі і літаратарамі Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Балгарыі, Канады і ЗША. Часопіс передрукаваў творы П. Тычыны, В. Сасюры, М. Бажана. У 1932 г. (у верасні) выданне было разгромлена і спыніла сваё існаванне.

На развіццё паэзіі А. Іванчука істотны ўплыў аказала творчасць П. Тычыны, што найперш выяўляецца ў вершах «Міф», «Майскі дзень», «Вясна, я чакаю цябе», «Цень», «Снег», «Сонечныя дні». Ёсць у гэтых творах і музыка слова, і адчуванне красы роднай прыроды. А верш «Світанне з Усходу» — гэта гімн рэвалюцыйным, вызваленчым памкненням заходнеўкраінскіх працоўных, іх празе да ўз'яднання з Савецкай Украінай.

У 1936 г. А. Іванчук браў удзел у Антыфашысцкім кангрэсе дзеячаў культуры ў Львове. Форум прагрэсіўнай інтэлігенцыі Польшчы, Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі быў скліканы па ініцыятыве Кампартыі Польшчы і Кампартыі Заходняй Украіны з мэтай стварэння адзінага фронту ў барацьбе з фашызмам. Львоўскі кангрэс адыграў важную ролю ў справе абароны міру, дэмакратычнай культуры, асветы.

…У сваім дзённіку «Лісткі календара» Максім Танк запісаў 30 мая 1936 г.: «…У Г. Дэмбінскага пазнаёміўся з рэзалюцыяй Львоўскага з'езда работнікаў культуры (16 — 17 мая), на якім ён выступаў ад імя працоўных Заходняй Беларусі. З'езд гэты выклікаў магутнае рэха ва ўсёй Польшчы. Ён быў баявой дэманстрацыяй адзінства інтэлігенцыі і рабочых мас, патрабуючых стварэння Народнага фронту. На гэты з'езд меўся паехаць і я…»

У той час у Танка ўжо сфарміравалася цікаўнасць да ўкраінскай літаратуры. Яшчэ 7 красавіка 1932 года пабачыла свет львоўская аднадзёнка «Беларускае жыццё» з вершам «Заштрайкавалі гіганты коміны», які творца ўпершыню падпісаў псеўданімам Максім Танк.

Але ж вернемся ў 1936 год. Так, Беларусь на кангрэсе прадстаўляў Г. Дэмбінскі, як піша «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «…Ад Заходняй Беларусі з дакладам выступіў кіраўнік Віленскай студэнцкай лявіцы "Фронт" Дэмбінскі…». І далей: «Пра салідарнасць з кангрэсам заявілі прагрэсіўныя пісьменнікі Заходняй Беларусі, у тым ліку М. Танк…» Значыць, Іванчуку сітуацыя ў Заходняй Беларусі, як і імя Максіма Танка, былі знаёмыя.

І, канечне ж, сустрэча двух паэтаў магла б адбыцца… «Яшчэ ў Пількаўшчыну, — піша М. Танк 30 мая 1936 г., — Зося Асаевіч прывозіла мне некаторыя матэрыялы для выступлення, але мяне затрымалі розныя неадкладныя справы. Звязаныя з газетай «Наша воля», з маім зборнікам "На этапах" і асабліва — узмоцненая слежка…»

Яшчэ ў 1935 годзе М. Танк (пра гэта — у яго дзённіку) пазычае ў нейкага «С» гадавікі ўкраінскага часопіса «Вікна» за 1930 — 1932 гг., дзе былі і публікацыі вершаў Андрыяна Іванчука.

…Па выхадзе ў 1939 г. з Бярозы-Картузскай украінскі паэт вяртаецца ў Струсаў. Працуе настаўнікам у Струсаўскай і Крывінкаўскай школах. Падарванае ў канцлагеры здароўе не дало магчымасці напоўніцу раскрыцца таленту Андрыяна Іванчука. Ён памёр у верасні 1951 г. на 49 годзе жыцця. Пахаваны ў родным Струсаве. Засталіся вершы і ненадрукаваныя празаічныя творы. А яшчэ — мастацкія палотны (Іванчук выяўляў сябе і як жывапісец). Ужо пасля смерці паэтычныя творы былога вязня Бярозы-Картузскай былі надрукаваны ў зборніках «Рэвалюцыйныя паэты Заходняй Украіны» (Кіеў, 1958) і «Палымяныя радкі: Мастацкія творы заходнеўкраінскіх пралетарскіх пісьменнікаў на старонках часопіса «Вікна» (1927 — 1932 гг.)» (Львоў, 1981). А ў родным Струсаве ў школе адчынены грамадскі музей у гонар Андрыяна Іванчука.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Кірмаш віраваў

**Зэльвенцы могуць ганарыцца тым, што здолелі адрадзіць адно з самых значных свят, якое ладзілася калісьці на гэтай зямлі, — «Ганненскі кірмаш». На фэст з'язджаюцца госці з самых розных куткоў Беларусі і замежжа.**



*Урачыстае шэсце.*

«Ганненскі кірмаш», у якім сёлета ўдзельнічала больш як 4 тысячы чалавек, — гэта яшчэ і магчымасць прыцягнуць увагу да турыстычнага і эканамічнага патэнцыялу рэгіёна. Таму напярэдадні свята адбыўся «круглы стол», прысвечаны пытанням устойлівага развіцця Зэльвенскага раёна. А сам кірмаш, максімальна набліжаны да даўніх традыцый, распачаўся з тэатралізаванага прадстаўлення і праходзіў на некалькіх пляцоўках: гандлёвай, рамеснiцкай, прадпрымальніцкай, сельскагаспадарчай, творчай, мастацкай...

Выстаўка-продаж выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога і фотамастацтва прыцягнула ўвагу не адной сотні наведвальнікаў. Нават самаму прыдзірліваму пакупніку было што выбраць! На рамесніцкай пляцоўцы — кашы і шкатулкі, талісманы і абярэгі, выцінанкі і сурвэткі, каралі і завушніцы, адмысловы посуд.

Члены журы вызначылі лепшыя пляцоўкі прадстаўнікоў малога і сярэдняга бізнесу, падворкі сельгасарганізацый і сельсаветаў. Адбыліся конкурсы на самы арыгінальны касцюм, лепшы каравай, афармленне павозак і балконаў. У другой палове дня «князь Сапега» назваў імёны пераможцаў у кожнай намінацыі і ўручыў пераможцам памятныя падарункі.

**Людміла ПОПКА,**
**фота аўтара**

*Цікава ведаць*

# Рукапісы, лісты, асабістыя рэчы

Касцюкоўшчына — радзіма выбітных пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў. Памяць пра іх, гісторыю і сучаснасць рэгіёна захоўвае Касцюковіцкі краязнаўчы музей, які працуе з 1973 года.

Аснову фондаў установы склалі экспанаты музея баявой славы, які стварыў па грамадскіх пачатках настаўнік гісторыі Уладзімір Ламінскі. У 1990 годзе спецыяльна для музея ўзвялі двухпавярховы будынак.

Цяпер тут дзейнічае дзве экспазіцыі: «Прырода» і «Гісторыя краю». Фонды прадстаўлены калекцыямі археалагічных знаходак, старадрукаў, прадметаў побыту, жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, нумізматыкі, узбраення, музычных інструментаў. Сярод рарытэтаў — народныя касцюмы, ручнікі, посцілкі, жаночы і мужчынскі строі настаўнікаў пачатку XX стагоддзя, дакументы і асабістыя рэчы Аркадзя Куляшова, Івана Чыгрынава, Аляксея Русецкага, Алеся Пісьмянкова, жывапіс Антона Бархаткова, кнігі вядомых творцаў, дзеячаў навукі і культуры з аўтографамі аўтараў.

Самая вялікая калекцыя — «Персаналіі» — прадстаўлена дакументамі, кнігамі, рукапісамі, асабістымі рэчамі і перапіскай. Калекцыя пастаянна папаўняецца дзякуючы сувязям з родзічамі знакамітых землякоў.

Для наведвальнікаў распрацавана шмат экскурсій. Сярод іх — «Касцюкоўшчына. Гісторыя краю», «Аркадзь Куляшоў. Жыццё і творчасць», «Касцюкоўшчына літаратурная».

**Анастасія МЕЛЕХАВА**

# Абгортка для Вечнасці

**Арт-праект «Тканіны думак» Усевалада Швайбы прадстаўлены ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Экспануецца каля 20 жывапісных і графічных твораў, выкананых на працягу апошніх пяці гадоў.**



*«Аўтапартрэт», 2009 г.*



*«Ізгой II», 2012 г.*

Творца цікава і арыгінальна вырашае задачу візуалізацыі нематэрыяльнага свету думак і звязаных з ім паняццяў. Мастак адштурхоўваецца ад усяго, што адбывалася з чалавекам, пачынаючы з антычных часоў.

У пошуку паміж узаемасувяззю духоўнага і фізічнага светаў Усевалад параўноўвае думкі чалавека з тканінай. Мудрагелiста пераплятаючыся паміж сабой, ахінаюць, быццам вопратка або чалма. Адсюль у многіх творах антрапаморфныя вобразы маюць незвычайны галаўны ўбор. Сам мастак лічыць: «Усе мы знаходзімся ў гэтай дзіўнай абалонцы. Вялікая інфармацыйная тканіна бесперапынна агортвае нас».

Яшчэ адзін вобраз, які выкарыстоўвае ў творчасці мастак, — гэта вада (яна таксама нечым нагадвае тканіну), сімвал ачышчэння і перараджэння. Чалавек, які ўваходзіць у раку і скідае з сябе старое адзенне, падобны да неафіта, які набывае новы сэнс жыцця.

У работах Усевалад Швайба ў арыгінальнай і артыстычнай манеры на розных узроўнях прасочвае ўзаемасувязь паміж мінулым чалавецтва і сучаснасцю. Ад работ, створаных маладым беларускім мастаком, сыходзіць адчуванне працягласці чалавечага быцця ў тканіне Вечнасці.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Сучасная «аранжыроўка»

Выстаўка «12 стратэгій», якая адкрылася ў Цэнтры сучасных мастацтваў, знаёміць наведвальнікаў з найбольш адметнымі тэндэнцыямі сучаснага беларускага жывапісу і скульптуры.

Дванаццаць творчых стратэгій — дванаццаць мастакоў, яркіх, таленавітых, не падобных адзін на аднаго: С. Селіханаў, Л. Хобатаў, У. Цэслер, І. Цішын, Н. Залозная, Ю. Анушка, Ж. Капуснікава, К. Селіханаў, А. Вараб'ёў, З. Луцэвіч, А. Шапо, М. Пятруль.



*Жанна Капуснікава «Блакітная дзяўчына», 1995 г.*

Погляд на сучаснае мастацтва як на сацыяльную з'яву — актуальны трэнд большасці дыскусій пра шляхі развіцця мастацтва ў XXI стагоддзі. Чалавек сярод людзей і яго адзінота, чалавек, які страчвае ідэнтычнасць, свабода асобы — галоўныя тэмы ў творчасці Канстанціна Селіханава. Спектр выкарыстаных матэрыялаў шырокі: ад традыцыйных бронзы і жалеза да пластыка і неону. «Метафарычны вобраз «чаргі», які ўзнікае ў працах творцы, — гэта мадэль існавання чалавека ў социуме, існавання першапачаткова супярэчлівага. Называючы сябе «традыцыяналістам», К. Селіханаў разам з тым дыстанцуецца ад эстэтыкі шоку, якая стала асновай мастацкай правакацыі ў сучасным мастацтве. Майстра цікавяць, перш за ўсё, дзейсныя сродкі і магчымасць гарманізацыі ўзаемаадносін чалавека з рэчаіснасцю.

Характэрная асаблівасць творчасці Уладзіміра Цэслера, мастака і дызайнера, — цікавасць да звычайных вобразаў навакольнага свету. Мастацкае вырашэнне работ У. Цэслера, як правіла, вылучаецца парадыйнасцю, іранічнай гульнёй з кантэкстамі. Асаблівая характэрныя ў гэтым плане жывапісныя карціны. Прынцып сінтэзу, а часам і спалучэнне неспалучальнага, пакладзены ў аснову твораў мастака.

Мастак Максім Пятруль думае манументальнымі аб'ёмнымі формамі. Гэтая асаблівасць яго творчага бачання — не толькі ў скульптурных работах, прызначаных для вялікіх гарадскіх прастораў ці прыродных ландшафтаў, але і ў станковых творах. У аснове яго творчага метаду — прынцып «унутранага сузірання».



*Фота Кастуся Дробава.*

*Уладзімір Цэслер «Матрошка», 1995 г.*

Творчасць Ігара Цішына разнастайная па формах рэалізацыі, але жывапіс нязменна займае ў ёй пануючае месца. Мастак шмат працуе ў галіне традыцыйнай станковай карціны. Даволі часта творца выкарыстоўвае прыёмы, па сваіх фармальных якасцях блізкія эстэтыцы рускага авангарда пачатку XX стагоддзя, поп-арту, канцэптуалізму. Ён актыўна ўплятае ў выяўленчую тканіну фрагменты літаратурных тэкстаў, якім адводзіцца важная роля ў вобразнай структуры твораў. Па словах самога мастака, у нейкай ступені ён выступае паслядоўнікам Хаіма Суціна і Фрэнсіса Бэкана.

Выстаўка працягнецца да 19 верасня, а ў 2016 годзе будзе паказана ў Кітаі.

**Таццяна ШЫМУК**

# Архіфэст!

Убачыць архітэктурныя навінкі і пагутарыць з іх аўтарамі запрашае XI Нацыянальны фестываль архітэктуры «Мінск-2015», які адкрыўся на тэрыторыі гістарычнага цэнтра сталіцы — у Верхнім горадзе і на Кастрычніцкай плошчы.

Тут можна азнаёміцца не толькі з экспазіцыямі нацыянальных саюзаў архітэктараў, дасягненнямі ў галіне архітэктуры і горадабудаўніцтва рэгіёнаў Беларусі, культавых збудаваннях рэспублікі, гарадской скульптуры, архітэктурнага інтэр'еру, архітэктурна-скульптурных інсталяцый, але і з іх таленавітымі аўтарамі.

Павіншаваць гасцей і ўдзельнікаў фестывалю з яго адкрыццём прыехалі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін, старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац. У віншавальнай прамове Анатоль Калінін назваў нацыянальны фестываль архітэктуры знакавай падзеяй: «Яго правядзенне — гэта найбольш эфектыўная форма выяўлення новых ідэй і імёнаў, а таксама азнаямлення ўсіх зацікаўленых з дасягненнямі як айчынным, так і замежнай архітэктуры. Упэўнены, што правядзенне фестывалю надасць магутны імпульс развіццю перспектыўных напрамкаў архітэктуры і горадабудаўніцтва, дазволіць увасобіць у жыццё многія праекты».

У межах форуму адбыліся шматлікія мерапрыемствы, сярод якіх XVII Рэспубліканскі конкурс на лепшы архітэктурны твор 2014 — 2015 гадоў, IX Рэспубліканскі конкурс дыпломных праектаў выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных архітэктурных школ Беларусі, IV Рэспубліканскі мастацкі конкурс дзіцячага малюнка «Архітэктура роднага краю вачыма дзяцей», V Мінскі міжнародны форум маладых архітэктараў.

Падчас фестывалю падведзены вынікі прэстыжнага Мінскага міжнароднага біенале маладых архітэктараў «Леанарда — 2015». Дарэчы, у гэтым конкурсе беларусы заваявалі 7 з 26 узнагарод.

Арганізатары фэсту — Беларускі саюз архітэктараў ды Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі пры падтрымцы Міністэрства культуры, Мінскага гарвыканкама, Міжнароднай асацыяцыі саюзаў архітэктараў, Беларускі саюз мастакоў, Беларускі саюз дызайнераў. Выстаўкі будуць экспанавацца да 14 верасня.

**Ганна ШЫМУК**

**ЛіМ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 10.09.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2038.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1488 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12